ISSN 0320-7579

№ 9/2016(1060)

# БЯРОЗКА

## № 9

Фота Ганны Качалка

**АНДРУСЬ ТАКІНДАНГ,** ЯКОМУ ЁСЦЬ ЗА ШТО ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ

ТАЯМНІЦЫ ТРЭЦЯЙ ПЛАНЕТЫ

3 ВЕРСІІ






# Гісторыі звычайных рэчаў

**Рагачоўскі музей народнай славы прадстаўляе**



Фігурны камень — знаходка каменнага веку, якой прыкладна 5—6 тысяч гадоў. Крэмень апрацаваны рэтушшу ў выглядзе фігуркі старажытнай жывёлы, хутчэй за ўсё бабра. Ёсць версія, што фігурны камень — гэта наканечнік гарпуннай стралы.



Цёмна-шэры камень, знойдзены, на думку навукоўцаў, на месцы ювелірнай майстэрні, — загатоўка ліцейнай формы для адліўкі крыжа. Ёсць версія, што яе не дапрацавалі з-за штурму Збароўскага замка ў XIII стагоддзі. На адваротным баку намалявана рыба, якая, хутчэй за ўсё, з'яўляецца знакам майстра.



Ручнік ільняны, па краях вышыўка гладдзю, у цэнтры — «рышэлье» дробнай клеткай, упрыгожаны залацістай фольгай. Унікальная ручная работа майстра. Яго ў музей перадала былая гаспадыня.





Рукапісная кніга «Гісторыя рымскага права» 1886 года, у ёй лекцыі, якія чытаў прафесар М. Багалюбаў. Хутчэй за ўсё кніга перапісана тагачасным студэнтам у якасці падручніка.

**Дзе гэта можна ўбачыць: Рагачоў, вуліца Леніна, 58.**

# «Чалавек разумны», з Днём нараджэння?



Яна Мусвідас

Так атрымалася, што гісторыя Беларусі ў школьныя гады мне падабалася значна больш, чым сусветная. Мабыць, гэта звязана з тым, што вывучаць тое, што адбываліся з тэрыторыяй адной краіны, значна лягчэй, чым расканцэнтраваныя па свеце падзеі. Беларуская літаратура, насамрэч, захапляе не менш. Яна, нібы люстэрка, транслюе ўсе асаблівасці розных часоў. І дапамагае ў разуменні канкрэтнага часу.

Думаю, у сённяшнім свеце практычна не засталося тых, хто недаацэньвае ролю кнігі. Безумоўна, я не маю на ўвазе майго 12-гадовага брата, якога не так проста прымусіць пачытаць.

Дарэчы, шырока распаўсюдзілася палеміка паміж прыхільнікамі друкаваных выданняў і тымі, хто аддае перавагу электроннаму варыянту. Я заўсёды выбіраю папяровы асобнік, але пры гэтым з'яўляюся актыўным карыстальнікам хуткай і зручнай «электроннай бібліятэкі».

Апошнім часам занадта вялікае значэнне надаецца носьбітам кнігі, якая, на маю думку, ніколі не страціць сваёй значнасці. Але якая розніца, што захоўвае інфармацыю: бяроста ці новая мадэль айпада, — першасная яе каштоўнасць.

Яшчэ калі вучылася ў Ліцэі, рыхтавала даклад пра будучыню друкаваных выданняў з іранічнай назвай «Паперу ў печ». Прыйшлося сутыкнуцца з рознымі поглядамі, сярод якіх былі меркаванні, выкладзеныя на канферэнцыі ААН, і думкі сучасных беларускіх журналістаў. Я прыйшла да высновы, што кнігам усё ж такі быць у доўгатэрміновай перспектыве. Мабыць, папяровы асобнік стане больш элітарным. Але гэта не знікненне.

Многія дарослыя людзі не любяць святкаваць свой дзень нараджэння. Магчыма, менавіта таму з'яўленне «чалавека разумнага» (Дня кнігадруку) шырока не адзначаецца. Спадзяюся, хоць бы ў 2017-м, у сувязі з 500-годдзем гэтай падзеі, сітуацыя зменіцца. А беларусы традыцыйнаму гулянню з шашлыком на Нямізе аддадуць перавагу мерапрыемствам, дзе ў цэнтры будзе «розум». Спадзяюся, там згадаюць не толькі імя Францыска Скарыны, але і ўсіх тых, хто рухаў колы каламажкі асветы на шляху да беларуса, ад Ізяслава да герояў нашага часу.


Жэня Вялько

# Рок-н-рол жыве! Але не тут...

Сябры неяк паклікалі ў горад на рок-канцэрт: «нешта падобнае да альтэрнатывы, табе павінна спадабацца». Спачатку думаю: крута, не кожны дзень у Мінску натрапіш на добрую і, што важна для беднага студэнта, бясплатную музыку. Потым пачынаю сумнявацца: па-першае, добры гурт наўрад ці грае бясплатна, а, па-другое, у нас альтэрнатыву не робяць, гэта занадта «па-заходняму». Іграў гурт Akute — не альтэрнатыва, але не ў гэтым справа. Чуць — чуў, але не слухаў. Як толькі прыйшоў — тут жа апынуўся каля сцэны і ўвесь сэт скакаў як заведзены. Цяпер гуглю альбомы і напяваю «ты не ўбачыш мяне...».

Ёсць усё ж такі што слухаць з айчыннага рока. Але адкуль у маёй галаве ўзялася прадузятасць: канцэрт беларускага рок-гурта будзе нецікавым? Неяк быў на майстар-класе для маладых музыкаў і паслухаў прадстаўнікоў лэйбла. На пытанне «як да вас трапіць?» яны адказвалі: патрэбны ідэя, стыль, арыгінальнасць. Але з агаворкамі: цяжкі рок не бяруць наогул — «проста мы так вырашылі»; тэксты на англійскай — «не раім, вы ж у Беларусі ўсё ж такі жывяце». Напрыклад, шматпакутныя «Ляпісы» — твар беларускага рока. А як справы з астатнімі часткамі цела?

Знайсці сапраўды цікавыя беларускія гурты даволі цяжка. Нядаўна адзін з адміністратараў пабліка Belarusian Underground Scene напісаў зварот да падпісчыкаў, у якім цікавіўся: дзе, уласна кажучы, якасць музыкі, прафесійны падыход, энтузіязм? Чаму ў выніку большасць маладых гуртоў можа прапанаваць толькі бадзёры, застольны рок-н-рол, які і рок-н-ролам назваць цяжка?

У адказ кажуць: а што есці беларускаму рок-музыку? Гурты гадамі збіраюць грошы, каб выпусціць два-тры сінглы, якія праз тыдзень ратацыі адыдуць у нябыт, бо зваротнай сувязі ад слухачоў — нуль. Скрынкі для грошай, якія выстаўляюць музыкі на якой-небудзь «Пешаходцы», пад канец канцэрта не напаўняюцца і напалову. Дзе тыя беларусы, чый дабрабыт дазваляе забяспечваць гурты? Бо нашы могуць рабіць прадукт не горшы, чым заходні.

Чытаю гісторыі… Напрыклад, Three Days Grace (іх я пачуў з машыны, якая праязджала пад маімі вокнамі, пакуль я пісаў гэты тэкст, таму можаце падставіць сюды любую назву заходняга рок-гурта): таленавітыя хлопцы спадабаліся прадзюсару, пазнаёміліся з лэйблам і сталі знакамітымі.

А да каго ў Беларусі можна прыйсці — і спадабацца?

# Дарослы гарэза Андрусь Такінданг





**Вядомы мастак і музыка, удзельнік гуртоў «Recha» і «Harotnica» расказаў «Бярозцы», якіх ганаровых людзей хапаў за нос у дзяцінстве, што такое «Парнат» і як можна зарабляць на хлеб мастацтвам.**

— Я нарадзіўся ў Мінску. Быў непаслухмяным гарэзам, усё ламаў, раскручваў, разбіраў. Мама распавядала, што каб я заснуў, тата выклікаў таксоўку, катаўся са мной па горадзе. Яшчэ аднойчы ў Мінск прыехаў нейкі ганаровы госць з пасольства Рэспублікі Чад, сказаў: «Ой, які прыгожы хлопчык», а я схапіў яго за нос і не адпускаў, не маглі аддзерці. Праз некаторы час я зрабіўся больш задуменным, спакойным. У пачатковую школу пайшоў у вёсцы Чэрцы (Лепельскі раён, Віцебская вобласць), у мяне там бабуля жыве. Ранняе дзяцінства ў мяне было вясковае: хадзіў, як кажуць там, «пад карову» — сустракаць з поля, вучыўся калоць дровы, касіць. І марыў, калі ж я патраплю ў Мінск, дзе не будзе гэтай цяжкой працы. Але гэты час спрыяў таму, што я сфарміраваўся такі,

які ёсць. Калі пасвіш кароў, ідзеш на далёкі агарод, у цябе ў галаве нараджаюцца думкі, песні, мары, карцінкі, вершы, не сціснутыя горадам і яго рытмам. Гэта было як адхланне пасля цяжкой фізічнай працы. Дарэчы, 22 гады таму я меў публікацыю ў «Бярозцы» — малюнкі і вершыкі — дзесьці дагэтуль захоўваецца той нумар. Гэта таксама яркая частка майго дзяцінства.

**— А як вы ставіліся да школы?**

— Я думаў, як жа доўга гэтая вучоба цягнецца! Кожны год напрыканцы лета мне рабілася сумна: паспяваюць яблыкі, а ты будзеш сядзець на занятках і глядзець у акно. З урокаў мне падабаліся літаратура і фізкультура. Хоць дзядуля ў мяне — выкладчык фізікі, а бацька — матэматыкі, з гэтымі прадметамі заўсёды былі пытанні. Бабуля — настаўніца рускай мовы і літаратуры, але і з пісьменнасцю ў мяне праблема — няма прыроднага пачуцця. Калі ў нейкага слова ёсць хоць які варыянт няправільнага напісання, я напішу няправільна, хоць усе правілы заўсёды вучыў.

У пяты клас я паступіў на мастацкае аддзяленне ў «Парнат» — так у народзе называюць гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка. Гэта — культавае месца, выспа свабоды. Уяві сабе: вялікая майстэрня, у якой працуюць 6—7 чалавек, стаіць магнітафон, людзі спрачаюцца, чыю касету слухаць, разважаюць, малююць. Па агульнаадукацыйных прадметах мне трапляліся настаўнікі, якія вучылі крытычнаму мысленню: на ўроках гісторыі ці літаратуры мы разважалі, спрачаліся, з нас фарміравалі не проста спажыўцоў, а сапраўдных мастакоў — людзей, якія маюць сваю думку і могуць яе адстойваць. Гэта быў час, калі я адчуваў сапраўдную мастацкую свабоду: можна было схавацца ў майстэрні, штосьці малявац перад праглядам дапазна. Гэта такі мікрасвет — з аднаго боку вельмі карысны, бо стварае казку для чалавека, а з другога — выходзіш з гэтага мікрасвету крыху прыгаломшаны рэальным жыццём, разумееш, што не ўсюды дзейнічаюць законы Парната.

**— Наколькі патрэбная ўвогуле творчая адукацыя?**

— Ёсць шмат прыкладаў самародкаў, якія ўсё ўмеюць. Але адукацыя аблягчае творчае жыццё: ты ведаеш законы і прыёмы. Чалавек, які не мае адукацыі, таксама вучыцца. Зразумела, што Леанарда да Вінчы акадэмію не заканчваў. Але наведваўся да майстра, чысціў яму пэндзлі. Адукацыя патрэбная для таго, каб ты потым мог супраць яе ісці. Ты малады мастак, цябе заганяюць у пэўнае рэчышча, а ты супраціўляешся. І вось у вашым двубоі гартуецца твой творчы меч. Ты робішся больш жыццяздольным.

**— А з чаго ўвогуле пачалося захапленне мастацтвамі?**

— Калі я быў малы, жыў яшчэ ў вёсцы, на ўроках літаратуры нам распавядалі пра пісьменнікаў і паэтаў, я любіў сябе ўяўляць пісьменнікам ці паэтам: калі вяртаўся са школы, апранаў чыстую белую кашулю, сядаў за стол, браў нататнік і думаў, што я магу напісаць. Як Караткевіч ☺. Яшчэ ў часы майго дзяцінства было модным абстрактнае мастацтва. Маці дала мне кардон, гуаш, я пачаў маляваць нейкія плямы, а ўсе мяне заахвочвалі, што гэта крута. І мне было добра, што я малюю, а ўсім падабаецца. Я працягваў, а потым даведаўся, што ёсць каледж

мастацтваў, куды можна паступіць. Тады я пачаў трэніравацца, дзядуля рабіў для мяне пастаноўкі, нацюрморты. Потым паступіў у каледж. З музыкай было ўсё пазней — у класе 10—11. Усім хочацца падабацца дзяўчатам, таму мы з сябрам Мікітам Кішовым, таксама мастаком, зрабілі рок-гурт.

**— Вельмі часта чую гісторыі, што бацькі супраць творчых прафесій…**

— Мне пашчасціла, што ў мяне заўсёды верылі. Калі б у мяне не было падтрымкі сваякоў, не варта было б і брацца за ўсе гэтыя эфемерныя прафесіі. Вельмі важна, калі блізкія цікавяцца тваімі канцэртамі, не саромеюцца іх, а ганарацца, бо тут можа быць дзве пазіцыі. Першая: «У мяне ўнук музыкант, хай Бог крые і ратуе», а другая: «А вось мой унук выступаў там і там, ездзіў на гастролі туды і туды». У маёй бабулі — другі варыянт. Творчая прафесія вельмі хісткая, ты заўсёды ў сумневах, ці тое і ці правільна ты робіш. Без падтрымкі блізкіх будзе вельмі складана.

**— Ці была альтэрнатыва творчым прафесіям?**

— У Парнаце аднойчы адбылася такая гісторыя: бяжыць маленькі хлопчык, музыкант-першакласнік, за ім дырэктар, такі мажны трубач, завучы па выхаваўчай, па навучальнай частках, загадчык гаспадарчай часткі — такой дэлегацыяй гоняцца за гэтым першакласнікам, ён выбягае на дарогу, дырэктар хапае яго, нясе ў Парнат, хлопчык кусае дырэктара за палец і крычыць: «Не хачу быць піяністам, хачу быць шафёрам».

Натуральна, было такое і ў мяне. Падчас творчых ці асабістых крызісаў хацелася пайсці працаваць шафёрам ці рознарабочым — куды заўгодна, абы не звязвацца з гэтымі хісткімі матэрыямі. Думаў: «Рабочы на будоўлі прыносіць карысць, доктар лечыць людзей, а што робіць мастак ці музыкант?» Але жыццё даводзіла, што ў кожнага чалавека ёсць свой крыж. Часам ты разумееш, што не толькі ты кіруеш сваім жыццём, што ў цябе ёсць нейкі абавязак, паколькі табе Богам, лёсам, тваімі настаўнікамі, сям'ёй дадзена гэтае слова, гэты пэндзаль, то ты мусіш не хаваць яго, а выкарыстоўваць. Народу патрэбны мастакі і музыканты. Што будзе, калі не будзе ні карцін, ні музыкі, ні песень? Чалавек са сваёй штодзённай працай проста кладзецца ў труну, не маючы ніякага мастацкага перадыху.

**— Агучу стэрэатып, што музыкай і мастацтвам вельмі цяжка зарабляць…**

— Вядома, цяжка, але ж мы неяк жывём. Можна сказаць, што зарабляць цяжка, і пры гэтым сядзець, нічога не робячы, а можна шукаць нейкія хады, бо запатрабаванасць ёсць. Мы аб'ездзілі шмат беларускіх вёсачак і мястэчак. Мастака і музыку таксама ногі кормяць, толькі паспявай казаць пра сябе, каб заўважалі і запрашалі. Зразумела, ёсць такая хвароба, што можам здрадзіць сваёй творчасці, перайсці да эстраднасці, але трэба шукаць сярэдзіну, калі музыка запатрабаваная ў патэнцыйнага пакупніка і адначасова адпавядае тваім мастацкім густам. Мы стараемся балансаваць на гэтай мяжы. Я нічога ганебнага не бачу ў тым, што мы выступаем не толькі на канцэртах і музычных фестывалях, але і выконваем ужытковую функцыю — аздабляем вяселле ці юбілей, бяромся за гэта

з задавальненнем. Галоўнае, каб быў імпэт, бо акалічнасці заўсёды будуць супраць. Трэба сябе прымушаць працаваць, рабіць больш і лепш.

**— Ці ёсць у вас у творчасці звышзадача?**

— Што датычыцца гурта «Harotnica» (Гаротніца), то ў мяне было жаданне ствараць музыку для музыкаў, каб слухач прыходзіў і яму было цяжка слухаць, каб узнікалі супярэчлівыя эмоцыі, каб ён перажываў. А гурт «Recha» (Рэха) — гэта суразмернасць і дэмакратычнасць: каб на канцэрце было кайфова і дзеду, і ўнуку. Імкнёмся ствараць наўмысна простыя музычныя кампазіцыі, каб у гэтай простасці была шчырасць, каб была магчымасць размаўляць з гледачом вочы ў вочы, рабіць песні пра сябе і пра яго адначасова. Не станавіцца ў позу рок-зорак, не быць месіямі, а ствараць песні, якія чалавек мог бы напісаць сам, якія ён піша штодзень сваім жыццём, але не можа іх вербалізаваць і аформіць музычна. Я ведаю дакладна, што нашы слухачы куды лепшыя за нас. Глядзіш са сцэны ў залю, бачыш крутых, рэальна прыгожых людзей, абцяжараных пэўным багажом інтэлекту, адчуванне трапяткое: ты тут стаіш перад імі такі, які ёсць, пацёрты, са сваімі тараканамі.

**— Ці ёсць у вас якасці і здольнасці, якія здзіўляюць вас самога?**

— Мяне здзіўляе, што я са сваімі сумнеўнымі якасцямі і здольнасцямі маю шчасце ўдзельнічаць у гурце «Recha», што мы маем песні і канцэрты. Я сябе ведаю, але мае негатыўныя якасці перакрываюцца якасцямі сяброў, з якімі мне пашчасціла мець зносіны — таленавітых, прыгожых і крутых музыкаў. Паасобку мы, так бы мовіць, «кульгавыя», у аднаго праблема з рытмам, у другога — з матывацыяй, у трэцяга — з матывацыяй і рытмам… Але збіраемся разам і ствараем насуперак якасцям і здольнасцям. Усё, дзякаваць Богу, атрымліваецца. Мне прыемна называць сваіх калег-музыкаў сябрамі, бо мы імкнёмся да гэтага. Мы працуем разам шмат гадоў, вядома, што ёсць сваркі і непаразуменні, таму што людзі мы недасканалыя. Але калі мы разам на рэпетыцыі ці на выступленні, адбываецца нейкае чараўніцтва, бо з усіх недасканаласцяў утвараецца не толькі музыка, але і свята.

**— Як у вас такая самакрытычнасць спалучаецца з аптымізмам?**

— Гэта ўсё жыццёвы досвед. Калі табе, шаноўны чытач «Бярозкі», менш чым 18 гадоў, то ты думаеш, што пройдзе няшмат часу — і ў цябе будуць крылы, ты зможаш лётаць, здолееш усё на свеце. І правільна. Так яно і будзе. Але ты сталееш, і пачынаеш заўважаць, што ў цябе не ўсё атрымалася, што ты не ўсё можаш, не ўсё умееш. Жыццё вучыць, што сапраўды можна набіць гузакі, але адчайвацца, апускаць рукі — нельга. Я гэта і сабе зараз кажу. У жыцці, вядома, шмат розных выпадкаў, нечаканасцяў, але ў шэрагу непрыемных нечаканасцяў сустракаюцца і радасныя, сярод пахмурных дзён здараюцца добрыя сонечныя дзянькі. Дзеля гэтага і варта працаваць, насуперак усяму. Галоўнае — заўважаць гэта, не збочыць са свайго шляху, трымацца сяброў, з якімі робіш адну справу. У гэтым — крыніца маёй надзеі. Я ведаю, што я недасканалы, але маё жыццё складаецца так, што ёсць за што дзякаваць Богу.

Кацярына Захарэвіч

# Без пустазелля

**Не так шмат прафесій, якія сумяшчаюць творчасць і фізічную працу. Адну з такіх я адшукала побач. Фларыстыка — гэта тое, чым неўсвядомлена спрабавала заняцца амаль кожная дзяўчынка. Але наўрад ці хто з іх думаў, што дзіцячае хобі можа ператварыцца ў прафесію. Такой была і Таццяна.**



Яна сустрэла мяне шырокай усмешкай, але з-за прылаўка не выходзіла: работа — справа сур'ёзная, нават калі хтосьці і жартуе, што гэта «усяго толькі кветачкі». Мяне адразу ўразіў яе лаканічны вобраз: маленькая чорная сукенка (усё як завяшчала Шанэль) гарманічна ўпісваецца ў яркі кветнік і не прыцягвае лішняй увагі.

Я прыехала праз пару гадзін пасля адкрыцця крамы, за гэты час Таня ўжо паспела праверыць стан кветак, падрэзаць і паліць іх, прыбраць нясвежыя расліны — увогуле, прывесці ўсё ў «таварны выгляд».

На рабочым стале красавалася некалькі кампазіцый. Мой позірк спыніўся на букеце з гародніны, такога я яшчэ не бачыла. Аказваецца, кампазіцыі з «дароў прыроды» — новы трэнд, які нядаўна прыйшоў у Беларусь. Шчыра сказаць, некаторыя кампаненты выглядалі засмяглымі, і я ў галаве: «Стаіць даўно, мабыць, беларусы не гатовыя да такіх эксперыментаў». Упэўненасць у гэтым падмацоўвалі пакупнікі: хлопец набывае жоўтыя хрызантэмы, жанчына — белую архідэю, мужчына за сорак — тры чырвоныя ружы. Але былі і выключэнні: малады чалавек не проста зацікавіўся «творам» з гародніны, а нават выказаў гатоўнасць збегаць у суседнюю краму, абы толькі Таня сабрала «трэндавы» букет.

Далей назірала за тым, як фларыст вырашае няпростую прафесійную задачу: за 15 хвілін са звычайных інгрэдыентаў «на салат» стварае шэдэўр. Таня прызнаецца, што не любіць спяшацца: лепш усё рабіць спраўна, а хуткасць перашкодзіць гэтаму.

Да абеду колькасць наведвальнікаў павялічылася, і ў фларыста не заставалася часу на размовы са мной. Я моўчкі назірала збоку, а пазней, каб не мясціцца ў натоўпе, нават выйшла з памяшкання. Таццяна сказала, што гэта яшчэ не страшна: «У святы бывае так, што чарга выходзіць за межы студыі, як у паліклініках перыядычна чуецца “хто апошні?”, а самыя папулярныя кветкі да 19—20 гадзін зусім заканчваюцца».

Пасля задала пытанне, якое наспела яшчэ тады, калі гераіня выраблял букет з агародніны: якім чынам пакупнікі даведаюцца пра тэндэнцыі ў стварэнні






букетаў? «Пакуль усе кампазіцыі не зробіш, не адфоткаеш і ў Instagram не выкладзеш — нікому нічога не трэба», — аджартоўваецца Таня. — Але наогул бывае, што прыходзяць, паказваюць канкрэтныя выявы, з фразай “хачу менавіта такое”, але гэта рэдкі выпадак».

Таццяна вельмі любіць пасмяяцца і лёгка ідзе на кантакт: у пэўны момант размовы яна працягвае раздрапаную рукі і кажа: «Раней, калі бачыла чалавека з такімі рукамі, думала: у яго ёсць кошка». Камунікабельнасць, на думку Тані, адна з найважнейшых якасцей фларыста. Кліенты бываюць розныя: маладыя людзі спрабуюць пазнаёміцца, для некаторых нават тое, што дзяўчына замужам — не аргумент. Самы непрыемны тып заказчыкаў — дарадцы, яны так і імкнуцца над каркам вісець, пакамандаваць, што, калі і ў якой паслядоўнасці рабіць. На думку Тані, для такіх трэба ўводзіць спецыяльную пазіцыю ў прайс-лісце — «дапамога фларысту» (агучана не без сарказму).

Па адукацыі Таццяна мастак, гэта вельмі дапамагае ў рабоце. Яна ставіцца да кожнага букета, як да твора: глядзіць, якіх элементаў не хапае, дзе трэба дадаць фарбаў, запоўніць пустэчы і г. д. Раней дзяўчына прафесію фларыста не разглядала, нечаканая прапанова паступіла ад знаёмай, біёлага па адукацыі, тая ўжо восем гадоў працуе у гэтай сферы. Наогул людзі ў гэты бізнес трапляюць абсалютна па-рознаму — галоўнае не баяцца вучыцца новаму. Канкурэнцыя сярод устаноў, якія займаюцца кветкамі, сур’ёзная, пачаткоўцам прыходзіцца нялёгка: у адным месцы зарабіў, у іншым страціў. Пакупнікі часта цікавяцца экзатычнымі раслінамі, але калі яны з’яўляюцца ў асартыменце, ажыятажу няма — вялікая колькасць прадукцыі псуецца. Асноўны крытэрый пры выбары кветак — кошт.

Мерапрыемства, якое будзе афармляць Таня ў хуткім часе, — вяселле: плануецца шмат кветкавых кампазіцый на сталах, для фота-зоны іх зробяць з паперы. Таццяна з аптымізмам падыходзіць да сваёй працы. У яе шмат планаў і ідэй, але пра іх яна пакуль што маўчыць. На мой погляд, наяўнасць энтузіязму — галоўны паказчык таго, што чалавек знайшоў сваю прафесію.

Яна Мусвідас



# Субардынацыя: мяжа «ўрок — перапынак»

У настаўніцкай сярэдняй школы № 11 Барысава чуваць галасы Дуброўкінай Элы Уладзіміраўны (настаўніцы рускай мовы і літаратуры) і Міцянінай Марыі Аляксандраўны (настаўніцы гісторыі). Разважаюць на тэму субардынацыі паміж вучнямі і настаўнікамі:

**Э. У.:** — Вучні павінны добра разумець, што на перапынку ты можаш размаўляць з настаўнікам як з асобай, а на ўроку ты павінен яго ўспрымаць толькі як настаўніка. Але гэтую мяжу «ўрок — перапынак» павінен вытрымліваць настаўнік, таму што дзецям цяжка.

Клас, які лепей за ўсіх разумее мяжу субардынацыі, — пяты, таму што ў пачатковай школе ў іх вельмі жорсткія рамкі. У малодшай школе няма такога, каб настаўніца была нейкай цётачкай. Яны гэтую мяжу не парушаюць, таму што маленькія. А вось клас шосты — сёмы…

**М. А.:** — У сёмым класе вучні ўваходзяць у перыяд сталення, таму спрабуюць сябе праявіць: я такі ж дарослы, як і настаўнік.

**Э. У.:** — Ёсць яшчэ момант, які датычыцца класных кіраўнікоў: ім трэба выкручвацца, у адрозненне ад настаўніка-прадметніка, які проста прыходзіць і прад'яўляе свае патрабаванні, — будаваць міжасобасныя адносіны, якія не ўкладваюцца ў межы «настаўнік — вучань».

**М. А.:** — Фактычна для іх ты становішся яшчэ адной мамай, але пры гэтым вучань павінен разумець: настаўнік — дарослы чалавек. Таму патрэбна пэўная адлегласць, інакш застанешся толькі другой мамай, не зможаш быць настаўнікам.

**Э. У.:** — Сучасныя дзеці скарачаюць дыстанцыю паміж настаўнікам і вучнямі. Яшчэ пачынаючы з пятага класа, яны кідаюцца абдымацца. Віснуць у цябе на шыі. Напрыклад, мая вучаніца, сёмы клас, бяжыць з аднаго канца калідора ў другі да мяне і крычыць: «Я па вас засумавала». Акрамя таго, гэтыя «абдымашкі» патрэбны не толькі дзяўчынкам, але і хлопцам.

**М. А.:** — Плюс, яны расказваюць, што адбываецца ў іх дома. Ты становішся як член сям'і. Пасля выпуску-2014 мне далі класнае кіраўніцтва ў пятым класе. Дзеці за тыдзень расказалі, хто як у сям'і размаўляе, хто што любіць і як кожны член сям'і бавіць свой час. Папярэднія вучні ніколі б пра гэта не расказвалі. Таксама вельмі лёгка расказваюць пра ўзаемаадносіны паміж бацькамі, і гэта ім здаецца нармальным. Прычым, размаўляюць як з сяброўкай. Яшчэ мне здаецца, што СМІ ў гэтым плане дапамагаюць: іх далучаюць да дарослага жыцця. Напрыклад, «Зрабіць прыгажуню за 24 гадзіны» — такая ж праграма ёсць і для вучняў 6—8 класаў. Дзяўчынкі пачынаюць сябе адчуваць часткай дарослага жыцця.

**Э. У.:** — Як у серыялах пра офіс са сваім асаблівым жыццём, так і ў школе свая атмасфера. Вучням дазволілі шмат што: ніхто не супраць, каб клас на перапынку, узяўшы торт, пайшоў у сталоўку нешта святкаваць.

**М. А.:** — У іх ёсць правы, але няма абавязкаў. Цяпер можна прыйсці да дырэктара і расказаць пра сваю праблему. Гэта сведчыць, што не сам вучань яе будзе вырашаць, а за яго.

**Э. У.:** — Аднак не ўсё так аднабакова, бо існуе вялікая колькасць дзяцей, якія вытрымліваюць дыстанцыю, таму што гэта псіхалагічна самадастатковыя вучні. Для іх настаўнік чалавек, які прыйшоў на ўрок, а потым і пайшоў.

**М. А.:** — Гэта дзеці, якія дакладна ведаюць, што ім патрэбна ад настаўніка. У мяне ёсць вучань, зараз перайшоў у адзінаццаты клас. Ён усведамляе, веды па якім прадмеце яму патрэбны, а па якіх — не, ведае, што яму трэба запытаць і на якіх уроках. Аднагодкам з ім не цікава. Такое ўражанне, што ён ужо наперад, гадоў на пяць, мае мэту. І вось такія вучні захоўваюць субардынацыю на сто адсоткаў.

**Э. У.:** — Тут атрымліваецца, што яны ўсё роўна, не ведаю як, бачаць дыстанцыю паміж вучнем і настаўнікам. Але ёсць нюанс: тыя дзеці, якім не хапала душэўнай цеплыні дома, стараюцца кампенсаваць яе за кошт настаўніка. Расказваюць аб тым, што трывожыць у сям'і. Мабыць, раней дзеці не бачылі гэтых разборак бацькоў: дарослыя сыходзілі ў іншы пакой і там ціха высвятлялі адносіны. А цяпер дзеці — удзельнікі канфліктаў, усё бачаць і перажываюць. Але ў любым выпадку, сучасныя дзеці разумеюць: ты — настаўнік. Так, бывае, што іх заносіць, але ігнараваць, абараняючы сябе, трэба толькі нахабнікаў і хамаў.

Яшчэ адзін аспект, які ўплывае на субардынацыю цяпер, — знешні выгляд настаўніка. Раней настаўнік быў адметны тым, што меў непамерны партфель, апранаў дзелавы касцюм зусім нияркага колеру, а мы зараз імкнёмся штодзень ствараць атмасферу свята.

Я была сведкай на стадыёне: маладая настаўніца сядзела са старшакласнікамі і ела з аднаго пачка з імі чыпсы. У дадатак размаўляла з імі слэнгам, смяялася з таго, з чаго і яны, нешта абмяркоўвала. Вучні ніколі яе не будуць прымаць як настаўніка. Субардынацыя заключаецца ў тым, што настаўнік не «іхні чалавек».

**М. А.:** — Можна сказаць, што дэмакратычны шлях навучання разбурыць субардынацыю і знішчыць павагу да настаўніка. Павінна быць іерархія. Вярхі — настаўнікі, якія павінны разумець, што без асновы, вучняў, нічога не будзе, таму што яны — гэта наша апора.

Падслухала Настасся Капцава

Мастачка Юлія Усава

# Адкуль пайшла назва вёскі Палыкавічы



*Недалёка ад Магілёва, на правым беразе Дняпра ёсць вёска Палыкавічы. У гэтай вёсцы калісьці жыла мая прабабуля, у ёй нарадзілася і вырасла мая бабуля.*

*Калі я прачытала гісторыю Магілёва, то даведалася, што першае паселішча ў Палыкавічах з'явілася яшчэ да нашых часоў, у III ст. да н. э., а ўпершыню ў летапісе Палыкавічы згадваюцца з 1501 года. Але тады вёска называлася не Палыкавічы, а Палуйкавічы. Палуйка — так калісьці называлі жменю выцертага лёну. Магчыма, раней каля Дняпра раздавалі людзям лён, таму і называлі гэтае месца Палуйкавічы.*

*Іншае паданне абвяшчае, што назва «Палыкавічы» пайшла ад таго, што працавітыя сяляне здаўна ў сваіх хатах ладзілі падлогі драўлянымі, у адрозненне ад распаўсюджаных глінабітных.*

*У вёсцы Палыкавічы ёсць цудадзейная крыніца, якая таксама мае старажытную і багатую гісторыю. Яна вядомая з 1552 года. З усяго наваколля ішлі людзі да крыніцы, каб вылечыць свае хваробы, пазбавіцца ад бед і пошасцяў.*

*Цар Мікалай II з жонкай Аляксандрай Федараўнай і дзецьмі шмат разоў наведваў гаючую крыніцу. Ім вельмі падабалася прырода наваколля, і яны прыязджалі сюды на адпачынак.*

*У далёкія часы існавала павер'е, што калі дзяўчына пройдзе басанож да крыніцы, то стане здаровай і блаславёнай.*

*І ў нашы дні ўсе ведаюць пра святую крыніцу, слава аб якой даўно перасекла межы Беларусі.*

*Хачу прапанаваць вам сваю легенду аб паходжанні назвы вёскі Палыкавічы.*

У даўнія-даўнія часы на левым беразе Дняпра стаяла вялікая вёска. У тыя часы людзі ўжо ўмелі плесці лапці. Ды вось бяда. Лясоў вакол паселішча расло мала, а ліп у тых лясах і зусім не было. Каб купіць лапці, патрэбны былі грошы. Ды вось толькі дзе іх узяць беднякам, тыя грошы? А лапцей на ўсю сям'ю шмат патрабавалася.

А на правым беразе ракі рос вялікі густы лес. Асабліва шмат расло ў тым лесе маладзенькіх ліпак. Увесну, пакуль не распусцілася лісце на дрэвах, трэба было драць лыка — у гэтую пару яно лёгка здымалася з дрэўцаў.

Плесці лапці было лёгка. А лыка здабыць, ды перавезці цераз шырокую раку было цяжкай працай. На пару лапцей даводзілася абадраць па тры маладзенькія ліпкі ці дубкі. Лапцей жа трэба было наплесці на ўсю сям'ю на цэлы год.

Ды вось яшчэ няўдача: вялікія лодкі, што маглі цераз раку пераплыць, былі толькі ў двух братоў-багацеяў па прозвішчы Якавічы. За тое, што лодкамі мужыкі карысталіся, браты з іх па тры шкуры дзерлі, як з тых ліпак. Кожны павінен быў лыка надзерці, каб і сям'ю Якавічаў забяспечыць абуткам да наступнай вясны, і сваёй сям'і каб засталося. Вось мужыкі і лезлі ў кабалу да братоў. Як надыходзіла вясна, ішлі яны на паклон да багацеяў, каб тыя лодкі далі. І адпраўляліся на другі бераг ракі ў лес па лыка.

Лапцей у братоў набіралася вялікая колькасць, і яны вазілі іх у горад прадаваць. Браты, нічога не робячы, яшчэ больш багацелі, а астатнія вяскоўцы — гібелі ў галоце.

І вырашылі мужыкі, што трэба ім штосьці рабіць, каб пазбавіцца ад гэтай залежнасці. Аднойчы ўвесну, калі настаў час па лыка ехаць, употайкі сабралі свае бедныя пажыткі, на світанку, калі браты яшчэ спалі, перанеслі іх на бераг, пагрузілі ў лодкі, пасадзілі туды ж сваіх бацькоў, жонак, дзяцей і адправіліся па новае жыццё. Прачнуліся браты, убачылі ў акно, што мужыкі на іх лодках паплылі кудысьці, выскачылі на вуліцу і пачалі крычаць:

— Вы куды, злодзеі? Хто дазволіў?

— Па лыка, Якавічы! — закрычалі ім у адказ, смеючыся, мужыкі.

А вецер данёс:

— Па-лы-ка-ві-чы-ы-ы-ы!!!

Як высадзіліся на беразе, выбралі месца прыгожае і ціхае паміж двух яроў. Хутка дамоў набудавалі на цэлую вёску. І зажылі ў той вёсцы добра. Сталі хлеб сеяць, а ўвесну — лыка драць, лапці плесці. А вёску так і назвалі — Палыкавічы.

А яшчэ крынічка працякала ў тым месцы. Вада ў той крынічцы празрыстая і вельмі смачная была. Хутка заўважылі ўсе, што вада крынічная раны загойвае, ад многіх хвароб пазбаўляе. Зразумелі людзі, што мае крыніца цудадзейную сілу. Сталі ўсім пра гэта расказваць, ухваляць сваю крынічку, каб усім дапамагла вада цудоўная. Да крыніцы з наваколля стаў народ з'язджацца. А потым пабудавалі побач царкву. Вось так і стала вёска Палыкавічы вядомай.

Маргарыта Садоўская,
7 клас, СШ № 40, Магілёў

Перапынак

# Штурман

На папяровым аркушы ў клетачку праводзіцца ломаная лінія, якая ў некалькіх месцах мяняе напрамак пад прамым вуглом. Каманды — па два чалавекі. Адзін з іх, штурман, павінен дапамагчы другому прайсці маршрут згодна з ломанай лініяй (адна клетка — адзін крок). Калі той, хто ідзе, робіць крок не ў той бок, то «штурман» павінен сказаць «Біп!», астатнія падказкі забаронены. Перамагае каманда, якая першай пройдзе ўвесь маршрут.

# Вяртанне



— Вася Фралоў, па цябе бабуля прыйшла. Можаш забраць партфель і ісці. Яна кажа, што ў вас важная справа ёсць.

Шмат хто ў класе ў гэты момант пазайздросціў хлопчыку: да канца заняткаў заставалася яшчэ тры ўрокі… Але Вася глядзеў у прастору перад сабой і быццам не чуў, што сказала настаўніца.

— Вася, цябе чакаюць, — сказала Вера Уладзіміраўна больш строга. — Не марудзь, мне трэба працягваць урок.

Вася з тварам, які нічога не дэманстраваў, згроб у партфель сшытак і падручнік, неахвотна падняўся і, быццам зомбі, пайшоў за дзверы.

Пасля ўрокаў у школу патэлефанавала перапалоханая мама Васі: дадому ён не прыйшоў! Вера Уладзіміраўна таксама спалохалася і пабегла да дырэктара школы. Праз чвэрць гадзіны туды ж прыбеглі мама Васі і яе муж.

— Як, ну як вы маглі адпусціць яго аднаго? — плакала мама.

— Ён быў не адзін, — апраўдвалася настаўніца. — Ён пайшоў з бабуляй. Я была ўпэўнена, што адпускаю яго дадому!

— Бабуля Васі жыве ў Амерыцы, яшчэ адна жыла ў Гомелі, але яна памерла ў пачатку лета, — ціха, але выразна сказаў Барыс Іванавіч, Васін айчым. — Як выглядала жанчына?

— Ростам невысокая, сівая, у маленькіх акулярах, — дрыжачым голасам пачала ўспамінаць настаўніца. — У бэзавым ж-жакеце з серабрыстымі гузікамі.

— Гэта Соф'я Пятроўна! — спалохана крыкнула мама і паглядзела на мужа. — У гэтым жакеце яе і пахавалі!

У гэты момант дзверы кабінета самі адчыніліся. У дальнім канцы калідора стаяў Вася.

— Вася, родненькі! — маці кінулася да сына. — Дзе ты быў?!

— Я быў з бабуляй Соняй, — вельмі спакойна адказаў хлопчык. — Яна хацела перадаць мне вось гэта.

Вася расціснуў кулак: на далоньцы ляжаў бурштынавы кулон у выглядзе жоўтага вока ў залатой аправе.

— Дзе ты гэта ўзяў?! — разгубілася мама. — Гэта амулет, ён жа застаўся ў Соф'і Пятроўны! Але ж такое… немагчыма!

Ад перажыванняў мама зарыдала ўголас. Вася яе абняў, зусім па-даросламу, і пагладзіў па галаве.

— Бабуля сказала, што вы дарэмна надзелі на яе гэты кулон. Тата пакінуў яго табе, бо хацеў, каб са мною ўсё было добра.

Барыс Іванавіч здзіўлена глянуў на жонку.

— Коля ўвесь час насіў гэты амулет, — сумна патлумачыла мама Васі. — Ён аддаў яго мне, калі я ад'язджала ў радзільны дом. А сам у той дзень загінуў у страшнай аварыі. Я з таго часу бачыць гэты амулет не хацела, не тое што аддаваць яго сыну! Калі Соф'я Пятроўна памерла, я рашыла, што будзе лепш, калі кулон застанецца з ёю.

— Бабуля сказала, што гэта абярэг, што ён павінен перадавацца па мужчынскай лініі, — сур'ёзна сказаў Вася. — Не бойся, мама. Цяпер са мною ўсё будзе добра.

Прывід Аркаша

# Туркменістан



## Геаграфія

Туркменістан — дзяржава ў Цэнтральнай Азіі. Мяжуе з Казахстанам на поўначы, Узбекістанам на ўсходзе, Афганістанам на паўднёвым усходзе і Іранам на поўдні. На захадзе абмываецца Каспійскім морам, па якім мяжуе з Расіяй, Іранам і Азербайджанам. Усходнюю мяжу краіны ўтварае рака Амудар'я.

Агульная плошча — каля 490 тысяч км$^2$ (чацвёртае месца сярод краін СНД і другое ў Цэнтральнай Азіі). Пустыня Каракумы («чорныя пяскі») займае большую частку краіны.

Сталіца — Ашхабад. Форма праўлення — прэзідэнцкая рэспубліка. Прэзідэнт — Гурбангулы Бердымухамедаў.


Сляды дыназаўраў у Кайтэндагу.

Туркменістан дзеліцца на пяць велаятаў (абласцей), кожны з якіх мае сваю сталіцу. Колькасць насельніцтва — каля 6 мільёнаў чалавек. Карэнная нацыя — туркмены (91%), каля 3% складаюць узбекі, каля 2% — рускія. Увогуле, у Туркменістане жыве больш за сорак народаў.

Грашовая адзінка — манат. Туркменская капейка мае назву тэнге.

Асноўныя галіны туркменскай эканомікі — ачыстка і перапрацоўка нафты і прыроднага газу, тэкстыльная і харчовая прамысловасці, аграпрамысловы комплекс і будаўніцтва. Па запасах газу Туркменістан чацвёрты ў свеце пас-



ля Расіі, ЗША і Канады. Нафты ў Туркменістане здабываецца больш за 10 мільёнаў тон за год. У краіне дзейнічаюць два нафтаперапрацоўчыя заводы — Туркменбашынскі і Сяйдзінскі. Першы з іх — гэта, увогуле, цэлы комплекс заводаў, якія вырабляюць бензін, газу, салярку, поліпрапілен, пластмасу, машыннае масла і іншае.

Адна з найбольш дынамічных у сваім развіцці сярод прамысловасцей Туркменістана — лёгкая. Туркменскі тэкстыль экспартуецца ў ЗША, краіны Еўропы, Расію, Турцыю і іншыя. Ашхабадскі тэкстыльны комплекс — найбуйнейшы ў Цэнтральнай Азіі. Туркменскія тэкстыльшчыкі ўпэўнена асвойваюць сусветны рынак, і прадукцыя пад маркай «Зроблена ў Туркменістане» карыстаецца попытам.

Асноўныя прамысловыя рыбы ў Туркменістане — асетр, сазан, судак, таўсталобік, амур, кефаль, кілька. Галоўныя раёны рыбалоўства — акваторыя Каспійскага мора, Амудар'я і зона Каракумскага канала.

## Сталіца

Ашхабад — адна з самых прыгожых сталіц. У 2012 годзе там узведзены культурна-забаўляльны цэнтр «Älem», кола агляду якога было занесена ў Кнігу сусветных рэкордаў. Раней у тую ж кнігу была ўключана гіганцкая зорка Агузхана Цэнтра тэлевяшчання «Туркменістан», як самая буйная ў свеце архітэктурная выява зоркі. Раней складальнікамі даведніка сусветных дасягненняў туркменская сталіца была адзначана як горад з самай вялікай колькасцю фантанаў, аб'яднаных у комплекс. Размова ішла пра архітэктурна-скульптурны ансамбль «Агузхан». Упершыню Ашхабад з'явіўся на старонках Кнігі рэкордаў Гінеса ў 2008 годзе дзякуючы самаму высокаму на той час флагштоку. У 2013 годзе ён адзначаны там як горад з самай высокай канцэнтрацыяй беламармуровых будынкаў.


Культурна-забаўляльны цэнтр «Älem» (Спадарожнік).


Манумент Нейтралітэта.



## Гісторыя



Шматлікія раскопкі, праведзеныя на тэрыторыі Туркменістана, паказваюць, што жыццё тут існавала яшчэ ў эпоху ранняга палеаліту. Тут былі знойдзены першыя ў гісторыі каменныя прылады працы. Больш познімі доказамі пражывання людзей на гэтай тэрыторыі з'яўляюцца грот Джэбел — старажытнае паселішча паляўнічых і рыбаловаў, размешчанае ва ўсходнім Прыкаспіі, і Джэйтун — паселішча земляробаў, знойдзенае недалёка ад сучаснага Ашхабада, датаванае шостым тысячагоддзем да нашай эры.

Прыкладна ў 500 годзе да н.э. на тэрыторыі Туркменістана працвіталі развітыя дзяржавы Маргіяна і Парфія. У час праўлення караля Мітрыдата I была адчаканена першая манета са срэбра — драхма. Пры раскопках старажытнай Нісы былі знойдзены рытоны са слановай косці ў форме рога, мармуровыя і сярэбраныя фігуркі старажытных грэчаскіх багоў.

…Да 716 года землі паміж Каспійскім морам і Амудар'ёй апынуліся пад уладай магутнага Арабскага халіфата. Мясцовыя цюркскія плямёны прынялі іслам і ўсталявалі гандлёвыя і культурныя стасункі з астатнім мусульманскім светам.

У пачатку XI стагоддзя была заснавана Сельджукская дзяржава (атрымала назву ад імя правадыра агузаў Сельджука і яго нашчадкаў Сельджукідаў). Сталіцай гэтай дзяржавы быў Мерв (цяпер Мары). На падставе этнасу агузаў сфарміраваўся народ, які атрымаў назву «туркмен», а краіну пачалі называць Туркменістан, што азначае «зямля туркменаў».

Да пачатку XVII стагоддзя туркмены набылі значны эканамічны патэнцыял. Праз туркменскія землі пралягалі гандлёвыя шляхі, якія звязвалі Еўропу з Цэнтральнай Азіяй, Іранам і Афганістанам.


Палац шчасця Bagt köşgi.

## Сучаснасць

З рукатворным цудам можна параўнаць сёння прыгожы беламармуровы Ашхабад, які расцвітае штодзень, а таксама выдатныя здраўніцы Гекдэрэ і Нацыянальнай турыстычнай зоны «Аваза», дзе пралягла ўнікальная судаходная рака, выраслі на цалінных землях новыя пасёлкі… Новыя магутныя фабрыкі і заводы, аўтамабільныя і чыгуначныя магістралі, якія перасеклі краіну ўздоўж і ўпоперак, возера Алсын Асыр у цэнтры Каракумаў і шмат што яшчэ — усё гэта звёны ў ланцугу вялізных пераўтварэнняў. За 25-гадовы перыяд незалежнасці адрадзілася туркменская вёска, расце клас земляробаў і арандатараў, прыватных перапрацоўшчыкаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

Асаблівая галіна туркменскай гаспадаркі — бахчаводства, якое мае векавыя традыцыі. Сартоў туркменскіх дыняў вядома сёння сотні. Ледзь не ў кожнай вёсцы ёсць свае дынастыі бахчаводаў — «гавунчы», кожная з якіх мае свой, не падобны на іншыя, фірмовы сорт, а часам і не адзін. Такія непераўзыдзеныя сарты як вахарман і гулябі вядомыя далёка за межамі Туркменістана.

Бесперабойная селекцыйная работа спрыяе ўдасканальванню генафонду сараджынскіх і каракульскіх авечак, вярблюдаў-арвана, ахалтэкінскіх скакуноў. Знакавая падзея для адраджэння сусветнай славы ўнікальнай ахалтэкінскай пароды — стварэнне Міжнароднай асацыяцыі ахалтэкінскай конегадоўлі са штаб-кватэрай у Ашхабадзе.

Сярод стратэгічных кірункаў развіцця швейнай і тэкстыльнай прымысловасці вылучаюць два асноўныя: вытворчасць прадукцыі для масавага ўжытку і вытворчасць у сегменце fast fashion з выкарыстаннем сусветна вядомых брэндаў, з аднаўленнем абсталявання і мадэрнізацыяй вытворчасці, з укараненнем інавацыйных тэхналогій.

Туркменскія тавары не прайграюць замежным не толькі ў кошце, але і па такіх параметрах як дызайн, эрганамічнасць, якасць. Сёння на туркменскіх тэкстыльных прадпрыемствах выпускаецца прадукцыя пад вядучымі сусветнымі брэндамі — Calvin Klein, Sara Lee, Casual Wear, Wallmart, Ikea і іншымі.

## Космас

27 красавіка ў 23 гадзіны 03 хвіліны па сусветным часе, калі ў Ашхабадзе стрэлкі на гадзінніку паказвалі 4 гадзіны 03 хвіліны ўжо наступнага дня — 28 красавіка, з касмадрома на мысе Канаверал (штат Фларыда, ЗША) адбыўся запуск першага спадарожніка сувязі Туркменістана «TürkmenÄlem 520E». Апарат, пабудаваны па замове краіны французскай кампаніяй «Thales Alenia Space», быў выведзены ў касмічную прастору ракетай-носьбітам «Falcon 9».



## Культура

Туркменскі дыван — самы, бадай, распаўсюджаны і старажытны «брэнд» нацыянальных традыцый. Дыван «Залаты век», што экспануецца ў Нацыянальным музеі дывана, мае плошчу 301 кв. м і занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса як самае буйное ў свеце самаробнае дыванове палатно.

Абавязковы атрыбут усіх народных і масавых святкаванняў — выступленні туркменскіх бахшы. Сёння дутар застаецца самым распаўсюджаным і любімым музычным інструментам туркменскага народа. Трэба адзначыць і нацыянальнае ювелірнае мастацтва, у якім праявілася ўся веліч мастацкага густу і неверагодная дэкаратыўнасць.

На тэрыторыі Туркменістана знаходзіцца больш за дзве тысячы гісторыка-культурных аб'ектаў, якія з'яўляюцца матэрыяльным



увасабленнем памяці народа пра значныя, трыумфальныя, радасныя і сумныя старонкі лёсу нацыі. У Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ўключаны такія помнікі Туркменістана як Старажытны Мерв, Ніса, Куняургенч.

У краіне каля 30 дзяржаўных музеяў, не ўлічваючы ведамасных і прыватных. Найбуйнейшай калекцыяй з'яўляецца збор Галоўнага музея Туркменістана, які налічвае больш за 110 тысяч экспанатаў.

## Турызм і спорт

Самабытная культура туркменскага народа, якая каранямі ідзе ў глыбіні тысячагоддзяў, разнастайныя прыродныя ландшафты, гістарычныя цікавінкі і архітэктурныя помнікі, на якія багатая туркменская зямля, неверагодна прыгожыя пячоры Кугітанга, Плато дыназаўраў, Бадхыз, Рэпетэк, маляўнічыя горныя цясніны Капетдага, субтрапічныя аазісы Сумбара — усё гэта прыцягвае ў Туркменістан гасцей. У пераліку важных турыстычных аб'ектаў — знакаміты помнік Ганур-дэпэ — галоўны горад старажытнай і загадкавай краіны Маргуш, прызнанай пятым цэнтрам сусветнай цывілізацыі. Яна не перастае здзіўляць свет сенсацыйнымі адкрыццямі археолагаў.

У верасні 2017 года ў Ашхабадзе пройдуць V Азіяцкія гульні ў закрытых памяшканнях і па баявых мастацтвах. «Азіяда-2017» — найбуйнейшы іміджавы праект, прызваны сфарміраваць у сусветнай грамадскасці новыя ўяўленні пра новы Туркменістан.

Каюм Тангрыкуліеў

## Самы вядомы ў свеце аул

У свеце ёсць самы вядомы аул,
Дагэтуль не стыне
Там попел гарачы.
Там стогны не глухнуць,
Не цішыцца гул,
Хто жудасць пабачыць,
Без голасу плача.
Калі б той друкарскі
Свінец пазбіраць,
Што ў словы адліты,
Саўдзельныя ў горы,
Там горы ўзрастуць
Небасхіл падпіраць,
Груз ляжа на сэрца,
Цяжэйшы за горы.
Хай чуе ўвесь свет
Пра Хатынь, пра Хатынь,
Свет гэткага гора
Не бачыў ніколі.
Палын напаміну,
Гаркотай нахлынь,
Хоць болю
Збалеламу сэрцу даволі.
Паслухайце, людзі,
Пачуй мяне, свет, —
Як попел Хатыні,
Пяскі Каракумаў.
Нямеў я ад гора,
Туркменскі паэт,
Аулу адно
Пажадаць я задумаў:
Планеце хапіла свінцу за вякі,
Гарачы свінец
Хай не куляй застыне,
Хай пойдзе друкарскі свінец
На радкі
Пра кветкі,
Пра чыстае неба Хатыні!

З туркменскай.
Пераклад Рыгора Барадуліна

Махтумкулі

## Каханая

Каханая мая мне даражэй жыцця,
Нібы сусвет увесь, стыхія пачуцця.

Ёй сэрца рад аддаць, ды шлях
не знаны мне,
Я шчасце б там знайшоў — у роднай
старане.

Каханую спаткаць, пачуць адно:
«Не здрадзь!
За гэты грэх цябе магу і пакараць».

Сіло — чарнеча кос — рыхтуе мне палон:
Душой і целам раб я да астачы дзён.

Калі ж з другім яна забыла пра цябе,
На свеце мне не жыць, сканаю я
ў журбе.

Аднак мінуць вясне — і ў горле даўкі ком:
Расплюшчыць вочы рад, ды заплылі
свінцом.

А стрэнецца яна, спытаецца калі, —
«З Геркеса, — адкажы, – а зваць —
Махтумкулі».

З туркменскай.
Пераклад Міколы Мятліцкага

## У параўнанні

З канём джыгіта роўніцца ішак, —
Пастаў іх побач — смех адзін, вядома.
Але й каня ў баі правер спярша,
Скачы ў агонь, і стане ўсё вядома.

Ў дзяцінстве толькі мрояць без канца,
Дурным не ў знак парады мудраца.
Прыкмець пагляд і ветласць малайца,
Па ўчынках род пазнаеш ты, вядома.

Душы тваёй бязмежны акаём.
Не кожны звер становіцца ільвом,
І госці едуць не ў парожні дом,
А толькі ў той, дзе добры лад, вядома.

Калі табе падорыць шчасце лёс,
Батыр, з народам атрасайся слёз,
Цябе жыццё праверыць навырост
З мячом і словам, — вострымі, вядома.

Махтумкулі! Няшчасных кроў і пот
Раструшчаць горы, спаляць іх, вядома.
Тыранаў справа — мучыць свой народ,
Чакае катаў страшны суд, вядома!

З туркменскай.
Пераклад Валянціны Коўтун





Курбанназар Эзізаў

## Два дрэвы

Дрэва на дрэва глядзіць праз гады.
А паміж імі люстэрка вады.
Поіць вада карані
і лістоту,
тонкую, нібы з зялёнай слюды.

Цягнуцца дрэвы
да неба з зямлі.
Толькі нядаўна пруткамі былі,
ну, а цяпер, паглядзі — веліканы…
Так непрыкметна яны падраслі!

А паміж імі ў сонечны дзень
коціцца звонкі, халодны струмень.
Кожнае з дрэў на той бок пазірае,
кожнае думку тужлівую мае:

«Бераг насупраць лепей майго,
вось бы патрапіць мне на яго!
Ды вось шкада, карані не пускаюць…»
Так яны ў зайздрасці век дажываюць…

## Паэт і маладосць

Звонкая песня яго, як страла
ў сэрцы людскія навечна ўвайшла.

Хоць час жыццёвы няўмольным бывае —
ён пра юнацтва ўсё песні спявае.

Слухаюць людзі звонкія словы —
і пра паэта такія размовы:

«Пэўна ж, яго абыходзяць гады,
і па-ранейшаму ён малады…»

Ды толькі воды ў рэчцы гадоў
русла напоўнілі звыш берагоў.

І вось аднойчы, мудры, сівы,
з ложка паэт не прыўзняў галавы.

Плакалі людзі, шапталі ў слязах:
«Што ж ён так рана пакінуў нас, вах!»

І хоць паэту было сто гадоў —
верылі людзі: заўчасна сыйшоў!

З туркменскай.
Пераклад Генадзя Аўласенкі

Касым Нурбадаў

## Артыст

Я нават сню — артыстам стаць,
І ўпэўнены даўно:
Змагу бліскуча я сыграць
Свавольніка ў кіно.

Як я, які б кінаартыст
Змог спрыт свой паказаць:
Па поручнях прамчацца ўніз,
Задачку ўраз спісаць?

Ператварыць акно ў мішэнь
Ён не сумеў бы так;
Даць пстрычку,
Стукнуць у каршэнь
І падражніць сабак;
Замазаць двойку, як той маг,
І сігануць з акна,
Загнаць ката
З плятня на дах —
Там «грэйся» дацямна!

А мог бы ён, як я, свістаць —
Мой чулі, пэўна, свіст?
Цяпер вы ўцямілі, відаць,
Хто тут кінаартыст?

## Калі акуляры бабуля бярэ…

Узор, вышываны ёй, здзівіць усіх,
Ажывіцца спрэчка прачытаных кніг,
Калі акуляры бабуля бярэ.

Ох, смачна як пахне! Гатовы абед?
Накормлены буду я сёння як след,
Калі акуляры бабуля бярэ.

Я ўрокі зрабіў, расчыніў я акно,
Сяброў я пабачу, пабуду ў кіно,
Калі акуляры бабуля бярэ.

Успыхваюць зоркі, глядзяць мне
ў акно,
Гудзе, нітку круцячы, верацяно,
Калі акуляры бабуля бярэ.

Здзяйсняюцца цуды, каб радасцю стаць.
Шкада, тут пра ўсё не магу расказаць,
Калі акуляры бабуля бярэ.

Тут скончыць бы верш, зразумелы для
ўсіх,
І мне пазайздросціць, але ў гэты міг
Мне кажа бабуля, паслаўшы кілім:
«Дай дзённік, унучак! Цікава, што ў ім?»

Як мне ў гэты раз не азмрочыць яе?
— Бабуля, стаміліся вочы твае,
Схавай акуляры хутчэй!

## Прыход вясны

Сонца ўсё ярчэй вяснуе,
Жаўрука пачуўся звон.
І ніхто цяпер не чуе
Крыку хрыплага варон.

Дрэвы, травы ажываюць,
Бы ў карэце залатой,
Над гарамі праплываюць
Аблачынкі чарадой.

І зямля, забыўшы мукі,
З ласкай шчырай, не ў журбе,
Развінула ўшыркі рукі:
«Добры дзень, вясна, табе!»

Наступае пасяўная,
Стэпы дыхаюць раллёй…
А зіма… зіма ўцякае —
Я хацеў расстання ў ёй.

З туркменскай.
Пераклад Міколы Чарняўскага

# Пакрочылі

**Кірунак — журналістыка.**
**Аўдыторыя — пачаткоўцы.**
**Сродкі — талент і жаданне.**

**Заўсёды незразумела, з чаго пачаць, таму прапаную невялікі дапаможнік па стварэнні матэрыяла.**

## 1. Тэма

Першы крок — выбар тэмы. Пісаць варта пра ўсё, галоўнае — вылучыць «праблему». Напрыклад, мае першыя матэрыялы былі прысвечаны сакрэтам поспеху знакамітасцей і ўзаемаадносінам з малодшым братам.

## 2. Жанр

Абраўшы тэму, трэба вызначыцца з формай выкладання думак. Гэта можа быць эсэ, якое змяшчае разважанні і высновы. Калі матэрыял аб канкрэтных падзеях, то дарэчны рэпартаж. Для інтэрв'ю таксама існуе некалькі форм: стандартная — «пытанне-адказ», апаратыўнае інтэрв'ю (збор розных меркаванняў па канкрэтным пытанні) або гутарка ў пераказаным выглядзе.

## 3. Мова

У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, таму вельмі важна валодаць абедзвюма. Так ты пашырыш набор выданняў, у якія можна адпраўляць матэрыялы. Верныя сябры ў засваенні моў — мастацкая літаратура і слоўнікі.

## 4. Актуальнасць

Надзённасць — важны складнік. Калі ў якасці тэмы абрана пэўная падзея, а форма — нататка, то марудзіць нельга! Праз пару дзён мала каго зацікавяць звесткі, пра якія ўжо ўсе напісалі.

### Шэсць правілаў Оруэла

Джордж Оруэл прапанаваў гэтыя 6 правілаў у эсэ «Палітыка і англійская мова» ў 1946 годзе. Як ён выказаўся, гэтыя правілы адрасаваны аўтарам, якія карыстаюцца мовай «не для літаратурных мэт».

1. Ніколі не выкарыстоўвайце метафары, параўнанні або іншыя апісальныя прыёмы, якія часта выкарыстоўваюцца іншымі аўтарамі.
2. Ніколі не выкарыстоўвайце доўгія словы там, дзе лепш падыдуць кароткія.
3. Калі можна прыбраць якое-небудзь слова, то прыбярыце яго.
4. Ніколі не выкарыстоўвайце пасіўную форму дзеяслова там, дзе можна пакінуць актыўную.
5. Ніколі не выкарыстоўвайце замежныя фразы, навуковыя тэрміны або жаргонныя словы, калі можна падабраць звычайнае раўнацэннае слова.
6. Лепш ужо парушце любое з гэтых правілаў, але не пішыце глупства.

## 5. Выданне

Звязвацца са СМІ вельмі проста: у інтэрнэце ёсць е-мэйлы, нумары тэлефонаў і адрасы. Галоўнае — запасціся адразу некалькімі тэмамі, каб было што прапанаваць. Пісаць у канкрэтнае выданне прасцей. Так ты ведаеш узроставую аўдыторыю і адчуваеш сферу інтарэсаў чытача. Перыядычнасць выхаду СМІ таксама моцна ўплывае на жанравую разнавіднасць: напрыклад, у часопісе, які выходзіць раз на месяц і радзей, наўрад ці надрукуюць агляд цікавых падзей на наступны тыдзень.

## 6. Фотаздымкі

Зараз аўтар можа не толькі расказаць чытачу аб важным, але і падараваць яму «эфект прысутнасці». Таму не лянуйцеся рабіць фота. Зразумела, ёсць верагоднасць, што выдаўцу яны не падыдуць, напрыклад, з-за якасці. А калі ўсё атрымаецца, вельмі прыемна будзе ўбачыць не толькі свой тэкст, але і фотаздымкі, зробленыя сваімі рукамі.

Яна Мусвідас

Аўтар рубрыкі
Ліна Багданава

# Патрабуецца фея!




Юля легла на падушку, заплюшчыла вочы і ўявіла сабе карабель, які бачыла ў інтэрнэце. Велізарны, велічынёй з горад. З садамі, басейнамі, забаўляльнымі комплексамі... Дыска-бар для падлеткаў. Кафэ-марозіва. 3D-кінатэатр, а лепш 5D! Планетарый...

— Юль, снедаць ідзі! — умяшаўся патрабавальны мамчын голас. — Яечня стыне. І як найхутчэй: я спазняюся.

Юля скурчыла тварык свайму адлюстраванню ў глянцы столі: вось так заўсёды, варта толькі знайсці цікавы занятак... — І вечна мама кудысьці спяшаецца, — прамармытала яна, выпаўзаючы з ложка. Зазірнула ў ванную, хуценька намачыла твар цёпленькай вадой, правяла па шчоках ручнікам і пакрочыла ў кухню.

Мама працавала як пчала: адна рука туды, другая сюды. То сасіску на сподак выкладзе, то бутэрброд з мікрахвалёўкі дастане, то цукар у каву пакладзе. На такіх хуткасцях — і вечна спазняцца? Крыўдна. «Вось бы стаць мне феяй, стварыць для мамы якую-небудзь цуда-машыну, — думала Юля, калупаючы відэльцам у яечні. — Каб раніцай падавала ёй каву ў ложак, а мне амлет з ўзбітай смятанкай гатавала».

Мама яшчэ трошкі паварушылася і сышла. А паток фантазій ахапіў дзяўчынку: «Было б добра дадаць функцыю прасавання, праціранння пылу. Потым навучыць машыну ў краму хадзіць і на дачы агарод палоць. Мяне прычэсваць і дыван выбіваць. А яшчэ...»

Юля страсянула рэшткі яечні ў кашэчую міску — хатняя любіміца аддавала перавагу разнастайнасці ў ежы — і сунула талерку ў мыйку. Бо бедненькая мама так стамляецца. Устае раней за ўсіх, кладзецца ледзь не за поўнач. То падлогі намывае, то пірагі пячэ. Быццам няма ў яе іншых заняткаў і больш цікавых спраў. А так бы разам марылі або на лайнеры плылі ў далёкія экзатычныя краіны...

Сонечны прамень перапоўз з манітора на кніжную шафу, потым асвятліў карцінку са смешнай кацінай мордачкай. За акном пачуліся звонкія галасы. Можна начараваць маме прыслужніцу. Тая не горш цуда-машыны з усім справіцца. А можна і без чараўніцтва абысціся: вось вырасту, пайду на работу. Буду грошы зарабляць і найму маме памочніцу. Сапраўды! Хай сабе атрымлівае асалоду ад жыцця! Спіць даўжэй, шпацыруе часцей. Разам гуляць будзем з мамай, а там і да кругасветнага падарожжа крок ступіць.

Яна падышла да люстэрка і прынялася за прычоску. Не выходзіць жа з дому з банальнымі кудзеркамі, трапяткімі ў вольным палёце. Дзяўчынкі не зразумеюць. Ды і самой хацелася чаго-небудзь асаблівага. Юля спрытна запляла дзве французскія коскі, згарнула іх мудрагелістым клубочкам і замацавала моднай заколкай. Прыгажосць! Хоць на баль, хоць наўпрост на трансакіянскі лайнер!

**Першакласнік з яблыкам**

— Ух, ты! Якая ў цябе прычоска атрымалася! Забаўненька! Я б нават сказаў, прыгожа. Ведаеш, прыходзь да мяне ў госці. У мяне сёння Дзень нараджэння. Мы з мамай торт спяклі «Напалеон»! І жэле фруктовае гадзіны тры рабілі. Стаміліся, вядома, але мне спадабалася кулінарнічаць, не ўсё ж шпацыраваць ды ў інтэрнэце забаўляцца. Будзеш у нас на свяце першай прыгажуняй! І без феі. А пакуль пачаставаць яблычкам? Смачнае! Учора з бабуляй цэлы кошык назбіралі. Першы ўраджай.

**Шкодная вучылка**

— Ты верыш у фей замест таго, каб элементарна дапамагчы маці?! Дажыліся! Посуд не мыты, ложак не засланы, а яна пра круізы трансакіянскія марыць! Ды з такім стараннем не тое што на хатнюю прыслужніцу, на пыласос элементарны не назбіраць. Хіба што сама ў памочніцы пойдзеш! Але гэта наўрад ці, дзяўчына ты з гонарам. Што рабіць? Тэрмінова адпраўляць на выхаванне. І куды толькі бацькі глядзяць?

**Бабуля з пруткамі**

— Эх, дзяўчынка, дзяўчынка! Добрая твая душа. Але сляпая. Вось маму пашкадавала — справа добрая. А пра сябе зусім забылася. Замест таго, каб пра фею думаць, устала б крыху раней. Дапамагла б матулі. Яечню зрабіць можна. Як і гарбату з бутэрбродамі. Ды і салацік які просценькі да мамінага вяртання прыгатаваць — самой жа прыемна будзе. Посуд зноў жа памыць забылася. Нешта падказвае мне, што і ўборка ўся на маме. І мыццё. І прасаванне. А цябе толькі што на прычоскі выкручастыя хапае. Бярыся за справу, дзяўчынка. Пакуль мама на рабоце, у кватэры прыбяры ды вячэру падрыхтуй. Круіз не абяцаю, а на вячэрні шпацыр маму дакладна адвядзеш. Цуды ў нашым жыцці часцей за ўсё звычайнымі рукамі робяцца.

**Прасунуты старшакласнік**

— Сапраўды! Якая з цябе фея? Ды самая сапраўдная! З рукамі, з нагамі і з галавой. Нават за гадзіну можна было горы звярнуць. А потым яшчэ і з сяброўкамі нагуляцца. Уяві, прыходзіць мама з работы ўвечары — а на стале пірог. Мыйка чысцінёй ззяе. Бялізна на балконе сушыцца. Матуля для цябе не тое што лайнер, касмічны карабель нойме. Жартую, вядома. Галоўнае, яна атрымае самы чароўны падарунак — трошкі вольнага часу. І веру ў светлую будучыню яе любімай дачкі. Навучышся быць карыснай навакольным — і ў будучай прафесіі сябе знойдзеш.

У царкве з Лізай Ліпай



# Пра малітву

Слова «праваслаўе» ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае ўменне правільна славіць Бога — маліцца. Калі людзі звяртаюцца да Бога, то называюць Яго сваім Госпадам — Валадаром. Таму правільна і пабожна звяртацца да Бога не з патрабаваннямі, а з маленнем.

Малітва не мае нічога агульнага з магіяй. Праваслаўе вылучае тры віды малітвы.

Першы і самы распаўсюджаны — просьба. «Падай, Госпадзі» — гэта прашэнне ў Бога дапамогі і розных выгод. Часцей пачынаюць з жыццёвых патрэб: здароўя або паспяховага вырашэння праблем. Таксама могуць прасіць у Бога духоўнага ўзбагачэння, напрыклад: пазбавіць ад баязлівасці, засмучэння, ляноты, раздражняльнасці або паказаць, што Бог побач.

Больш рэдкі від малітвы — падзяка. Рэдкі таму, што людзі часцей просяць, чым дзякуюць. Атрымаўшы жаданае, мы часта забываемся падзякаваць і ў адносінах людзей паміж сабой, і ў адносінах з Богам.

Самы высокі від малітвы — славаслоўе. У гэтай малітве чалавек перажывае радасць ад сваёй сустрэчы з Богам. Калі пераходзяць да славаслоўя, у праваслаўных храмах часта спяваюць: «Алілуя» (што значыць «Слава Богу»). Прагаворваючы такую малітву, чалавек не зважае на свае інтарэсы. Менавіта бескарыслівая радасць — самая моцная і чыстая. Можна радавацца новым набыткам-рэчам. Але ёсць такія прычыны для радасці, якія нельга забраць дадому. Напрыклад, захад сонца, вясёлку, пах зеляніны пасля дажджу, салаўіны пошчак. Так і адчуванне прысутнасці Бога у нашым жыцці.

Можна маліцца як у адзіноце, так і разам з кімсьці. Можна маліцца пра сябе і ўголас, у чытанні і спевах. На любой мове, у любым месцы, пры любых акалічнасцях.

Калі чалавек маліўся шчыра і правільна, ён, як сведчыць вопыт праваслаўнай культуры, дачыняецца сэрцам да Бога і ўнутрана змяняецца. Дзеянне Бога, якое змяняе чалавека, называецца «благадаць» (у значэнні «добры дар», дар Божы). Людзі, якія пад уздзеяннем благадаці Божай змяніліся так, што з іх сэрцаў і ўчынкаў струменяцца вера, надзея, любоў, называюцца святымі. Праваслаўныя вернікі перакананы ў тым, што Бог мае зносіны з людзьмі праз Сваю міласць. Благадаць дзейнічае ў сэрцах людзей і прыводзіць іх да святасці. Таму для праваслаўных словы і ўчынкі святых хрысціян вельмі значныя.

Самая кароткая малітва: «Госпадзі, памілуй!»

«Памілуй» — гэта слова, аднакарэннае з «міласць», «мілаваць», «міласціна». Гэта не заробак і не заслужаная ўзнагарода. Аб памілаванні просіць той, хто адчувае сваю віну. Ён просіць Бога дзейнічаць па-над законам.

Самай вядомай хрысціянскай малітвай з'яўляецца малітва «Ойча наш». Тэкст гэтай малітвы быў агучаны Госпадам Ісусам Хрыстом і дайшоў да нас у тэксце Евангелля на грэчаскай мове. А вось як гучыць гэта малітва па-беларуску:



«О́йча наш, Які ёсць на нябёсах! Няха́й свяці́цца імя́ Тваё, няхай пры́йдзе Ца́рства Тваё, няха́й бу́дзе во́ля Твая́ як на не́бе, так і на зямлі́. Хлеб наш надзённы дай нам сёння; і дару́й нам даўгі́ на́шы, як і мы дару́ем даўжніка́м на́шым; і не ўвядзі нас у спаку́су, але збаў нас ад зло́га».



## Лісты да хрэсніка

Прывітанне, мілы мой хрэснік!

Нарэшце я атрымала ад цябе ліст. Як жа ён мяне ўсцешыў, мой дарагі! Ты пішаш, што вырашыў запісацца ў нядзельную школку. Я вельмі рада.

Але скажы, калі ласка, навошта табе гэта трэба?

Патлумачу сваё пытанне. Уявім сабе, што пяць навічкоў прыйшлі ў нядзельную школку. Адзін — бо мама яго прымусіла, другога прывёў сябар, бо разам тусавацца весялей, трэці хоча атрымліваць падарункі на Раство і Вялікдзень, чацвёрты даведаўся, што школка цікавыя паездкі бясплатна арганізуе, а пяты чуў, што прыход апякуецца дзіцячым прытулкам, і марыць разам з прыхаджанамі дапамагаць няшчасным дзецям. Значыцца, пяць навічкоў прыйшлі ў нядзельную школку. Учынак адзін, а матывы розныя. Бачыш, праблема не ў тым, што мы робім, а ў тым, з якой мэтай: сабе дагадзіць ці Богу і людзям служыць. Таму, мой дарагі, будзь да сябе ўважлівым, правярай, што рухае тваімі ўчынкамі.

Цяпер успомніла адну гісторыю. Аднойчы сяброўка мне расказала, як навічкі ў нядзельнай школцы запаўнялі анкету. У ёй было такое пытанне: «Хто твой герой?» Падлеткі назвалі сваіх куміраў: зорак спорту і шоу-бізнесу, артыстаў, мадэляў і мільярдэраў…

А мы ж, хрысціяне, павінны хацець быць падобнымі толькі на Хрыста. Сын Божы прыйшоў на зямлю не для таго, каб служылі Яму, але каб Самому служыць грэшным людзям. Ён прыйшоў, каб любіць. Мы павінны ад Яго гэтаму павучыцца. Гасподзь сказаў: «Па тым даведаюцца, што вы мае вучні, калі будзеце мець любоў між сабой». Хрысціянская любоў — гэта бескарыслівае служэнне блізкім, клопат аб іх, падтрымка, прабачэнне, суцяшэнне, цярпенне, міласэрнасць.

Як на тое самае пытанне адкажуць падлеткі праз колькі гадоў — залежыць ад кожнага асабіста. Калі, скончыўшы нядзельную школку, чалавек скажа: «Ісус — мой Бог, мой Настаўнік. На Яго хачу быць падобным, у Яго вучыцца, за Ім ісці», значыць, у нядзельную школку ён хадзіў недарэмна.

Мой дарагі, ты выбраў блаславенны шлях вучня Хрыста. Маліся. І Гасподзь са Сваёй Маці і ўсімі святымі падтрымаюць цябе і табе дапамогуць. Кожны дзень для ўмацавання сябе чытай Евангелле і жыціі святых. Яны гэты шлях прайшлі і сталі падобнымі да Госпада.

І няхай твая вучоба будзе па словах малітвы: «Богу на славу, бацькам на ўцяшэнне, Царкве і айчыне на карысць». А я за цябе цяпер спакойная.

Заставайся з Богам!

Твая хросная

# У дарогу з Богам!



Сваю першую пешую пілігрымку ў Будслаў да іконы Маці Божай я здзейсніла ў 2011 годзе, калі мне было 14. Мы рушылі па маршруце Барысаў — вёска Зембін — вёска Акалова — вёска Даўгінава — Будслаў. Праз два гады, у выніку пэўных акалічнасцей, змянілі шлях: Жодзіна — Лагойск — вёска Акцябр — Даўгінава — Будслаў. Працягласць — 136 і 125 кіламетраў адпаведна.

З якой мэтай ажыццяўляецца пілігрымка? Кожны з нас мае свае радасці і цяжкасці на сэрцы, і, каб расказаць пра іх Маці Божай, ідуць, едуць на роварах, матацыклах, машынах, аўтобусах да Будслава. Але найбольш цікавая, на мой погляд, менавіта пешая пілігрымка.

Першы дзень пачынаецца заўсёды радасна, з вялікім натхненнем. Фарміруецца калона, якую ўзначальвае крыж, упрыгожаны вянком з кветак, дубовых галінак, каласоў. За ім ідуць людзі са сцягамі, па якіх можна зразумець, адкуль рушыць пілігрымка. У прастор нясецца першы бадзёры заклік «У дарогу!», якога ўсе чакаюць з асаблівым хваляваннем. Потым яго я буду чуць некалькі разоў на дзень на працягу ўсяго падарожжа, і з кожным разам усё цяжэй і цяжэй будзе падымацца з зямлі, бо будзе круціць спіну, будуць балець ногі, ныць сцёртыя

мазалі, але ніколі не ўзнікне думкі вярнуцца, спыніцца, застацца. Бо ў мяне заўсёды ёсць мэта на гэтым шляху — Маці Божая. Кожны раз я лічу, што нездарма Яна паклікала мяне да Сябе такім незвычайным чынам. Цяпер ведаю: усё магчыма выканаць, нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, калі ёсць сапраўдная мэта.

Ідучы па дарогах роднай краіны, заўважаеш нешта асаблівае, што заўсёды прапускаеш, едучы транспартам. Напрыклад, замалёўкі з жыцця птушак: бусел, які важна ходзіць сярод кароў у статку, знайшоў і хуценька праглынуў жабку; на провадзе сядзяць маленькія ластаўкі і чакаюць, цвыркаючы, трапечучы крыламі, калі бацькі пакладуць у дзюбку ежу. Ці сустракаеш табун коней і ведаеш, што паводзіць сябе трэба асцярожна і ціха, бо яны вельмі пужлівыя жывёлы.

Рушылі ў дарогу. Над галовамі пілігрымаў гучаць спевы, словы малітвы ці адпаведныя часу набажэнствы. Побач з табой людзі, духоўна да цябе падобныя, якія падтрымаюць, дапамогуць. Можна прасіць не саромеючыся ў незнаёмых пластыр ці глыток вады, якая ў цябе ўжо скончылася. Пачынаеш на многія справы і рэчы глядзець прасцей, разумець вартасць звычайных момантаў, бо, калі стаміўся і млееш ад смагі, не важна, як ты апрануты, якога памеру шкарпэткі, ці падыходзяць яны да колеру тваіх вачэй. Я чула, як адна дзяўчына распавядала, што да пілігрымкі ў яе заўсёды быў асобны кубак, лыжка, талерка, нягледзячы на тое, што жыве разам з бацькамі. Яна нават думкі не дапускала, што піць ваду можна з рыльца адной бутэлькі некальком людзям. Усё змянілася, калі яна выйшла ў шлях.

Рознымі шляхамі крочыць пілігрым, розных людзей сустракае, ідучы сцежкамі Бога. На ўскрайку адной з вёсак вітаюць людзі і дораць дамашні торт, які потым дзеліцца на ўсіх. Вось старая жанчына, апіраючыся на кій, трымае талерку з кавалачкам хлеба і калівам солі. Знямоглы стары чалавек працягвае руку і кажа, каб узялі грошы, а дзеці крычаць: «Мама, глядзі!» і махаюць рукамі. Але ж можна пачуць і: «Дармаеды, гультаі! Лепш буракі ідзіце палоць!» Кожны з іх мае рацыю, сваю праўду жыцця. Але пілігрыму не выжыць без чулых, адкрытых людзей, бо часцей за ўсё, апынуўшыся на месцы начлегу, ён ідзе ў хату да мясцовых жыхароў, якіх папярэдне просяць, каб прынялі падарожнікаў. Прымаюць па 4—5, нават 8—10 чалавек, частуюць вячэрай, напальваюць лазню, калі ёсць, а калі не, дык і карыта добра ногі абмыць. У вёсцы Даўгінава (яна адметная тым, што гэта апошняе месца начлегу перад Будславам і ў ёй сыходзяцца шляхі некалькіх пілігрымак: Мінск, Жодзіна, некалі Барысаў і іншыя) ёсць сям'я, чыя хата стаіць побач з касцёлам. На працягу многіх гадоў гэтыя людзі мыюць у сваёй лазні пілігрымаў столькі, колькі прыйдзе, майце на ўвазе, што гэта многія дзясяткі чалавек. Выйдзе партыя з 5—6 ружовенькіх, задаволеных жыццём людзей, гаспадар заскочыць, каб падкінуць дроў, заліць у бак вады цёплай, прынесці халоднай — і зноў завіхаецца каля пілігрымаў. У яго неаднойчы пыталіся, ці не шкада яму грошай, бо выдаткі, безумоўна, вялікія, але ў адказ заўсёды чулі: «Бог дае мне больш».

Апошнія кіламетры, і мы ў Будславе! Некалькі разоў мы ўсе разам клаліся крыжам перад іконай Маці Божай. Уражанні надзвычайныя: пасля спёкі, смагі ці наадварот мокрых ног, адзення, дарожных цяжкасцей ты адчуваеш прахалоду падлогі, расказваеш, як роднай маці, аб тым, што нёс у сэрцы доўгі час, бачыш Яе лагодны позірк з алтара, і вялікім шчасцем адгукнуцца ў Душы пройдзеныя кіламетры.

Настасся Капцава



# Прыгоды Чырвонага Шара

Пачалася гэтая гісторыя ў адной прыгожай вёсцы. Дакладней, у прыгожай вясковай краме, якая называлася «Прадавец цацак». У гэтай краме і знаходзіўся наш Чырвоны Шар.

Але ў адзін цудоўны дзень Шар купілі. Купіла яго пяцігадовая дзяўчынка. Калі яна прынесла Шар дадому, ён вельмі ўзрадаваўся, што апынуўся ў новай абстаноўцы, бо вельмі ўжо надакучала Чырвонаму Шару знаходзіцца ў краме.

Дзяўчынка часта гуляла са сваім новым сябрам і нават спявала яму песні. Але аднойчы, калі мама мыла бялізну і адчыніла фортку, Чырвоны Шар вылецеў праз яе і паляцеў кудысьці.

Дзяўчынка, убачыўшы гэта, заплакала.

— Шар, дзе ты, мой Шар! — праз слёзы паўтарала яна. — Вярніся, мой мілы Чырвоны Шар!

А Шар у гэты час ляцеў далей і далей, падхоплены парывам ветру. Пад сабой Шар назіраў гарады, вёскі, асобныя дамы. Лясы і рэкі і яшчэ шмат іншага. Так ён ляцеў цэлых сем гадоў і нават абляцеў вакол Зямлі, якая таксама з'яўляецца шарам. А потым ён пачаў рэзка апускацца ўніз.

Злавіла Чырвоны Шар тая ж дзяўчынка, толькі было ёй ужо не сем, а дванаццаць гадоў. А ў пяць гадоў яна паставіла на Шары свой подпіс. І толькі таму яна зразумела, што гэта той самы Чырвоны Шар. Узрадаваная дзяўчынка пабегла да бацькоў, каб падзяліцца з імі сваёй радасцю.

Так, усё, што было раней, можа калі-небудзь да вас вярнуцца!

# Аб Памідоры

Жыў-быў на адной кухні Памідор, які, калі бачыў побач хоць нейкае гора, пачынаў спачуваць і плакаць.

Аднойчы ў кухню прынеслі Кацяня. Яно было маленькае і вельмі галоднае. Увесь час пішчала: «Есці хачу!»

Вядома ж, наш Памідор пачаў спачуваць небараку.

— Прабач, — уздыхаў ён пры гэтым, — але я нічым не магу табе дапамагчы!

Але Кацяня так жаласліва пішчала, што Памідор пачаў думаць, як жа дапамагчы гэтай малечы. Думаў ён, думаў, і, нарэшце, прыдумаў: «А давай, ты мяне з'ясі?»

— Ды што ты?! — усклікнула Кацяня. — Я не буду цябе есці!

— Але ж ты галоднае! — настойваў Памідор. — А калі мяне з'ясі, ты пасадзі маё насенне на гародзе.

Кацяня так і зрабіла. Аднесла насенне на гарод і пасадзіла ў зямлю. А потым даглядала маладыя парасткі, усяляк аб іх клапацілася.

Праз нейкі час выраслі памідорныя дрэўцы, на кожным з іх было ажно па восем памідораў.

Кацяня за гэты час таксама вырасла — стала вялікім прыгожым Катом.

Так яны дапамаглі адно аднаму.

Таму што спачуваць добра, а дапамагаць — яшчэ лепш!

Вось толькі пытанне ўзнікае: «А ці ядуць каты памідоры?»

Валера Мусіенка,
6 «Б» клас, гімназія № 75, Мінск

## Працаўнік

«Восень — работ восем», —
У народзе кажуць.
На палетках жыта
У снапочкі вяжуць.
На палях рупліва
Бульбачку капаюць,
Буракі і моркву,
Рэдзьку выбіраюць.
Кіяхі цягаюць
З кукурузнай гушчы…

Я таксама ў працы:
Дзень сланечнік лушчу.

Ілья Лобан,
4 клас, СШ № 4, Салігорск

## Вось такі футбол!

Мяч нагою — пас!
Мяч каленам — клас!
Замест гола — фол…
Вось такі футбол!

Зноў каленам мяч —
Варатар — не плач!
Крык з трыбуны: «Го-о-о-ол!»
Вось такі футбол!

Саша Халюта,
5 клас, Шашкоўская СШ,
Стаўбцоўскі раён

## Мой хамячок

Хутчэй бягу дамоў са школы,
З сабой гасцінцы несучы.
З'явіўся ў хаце сябар новы:
Днём спіць, а зіркае ўначы.

Мяне ён радасна вітае:
Маленькі цёплы камячок.
І на далоні засынае
Мой лепшы сябар хамячок!

## Дачушкі

У сям'і растуць дачушкі,
Дзве пястушкі-весялушкі:
Ганулечка — копія татулі,
Каця знешне — як мамуля.

Вось ідуць дапамагаць
Малыя гаспадынькі:
Трэба пыл павыціраць,
Ды памыць прасцінкі.

Кнігі ставяць у радочак,
Паліваюць кветкі.
Усміхнецца маці дочкам:
— Я люблю вас, дзеткі!

Ганна Сінькевіч,
6 клас, СШ № 1, Заслаўе

Мастачка Дана Цюперак

У выпуску:



Я – МАСТАК
№ 9

Выв Я ды

# Мастацтва, якім не падманеш





Недалёка ад трамвайных пуцей, за Нацыянальным цэнтрам сучаснага мастацтва, на вуліцы Някрасава, хаваецца мастацкі камбінат. З выгляду — звычайная пабудова савецкага часу, але за сценамі — творыцца мастацтва.

Адно з памяшканняў камбіната — майстэрня Генадзя Мацура. Унутры ўсё выглядае, як у кіно: высокія столі, белыя сцены, акно на ўсю шырыню памяшкання, з якога выдатна праглядаецца неба, а паўсюль — спісаныя палотны і кнігі.

Калі шчыра, трапіла я сюды выпадкова, жонка мастака — Наталля Мікалаеўна — выкладае ва ўніверсітэце англійскую мову, яна і прапанавала пазнаёміцца з мастацтвам каліграфіі.

Я прашу Генадзя Іванавіча расказаць пра творчы шлях, усё ж не кожны дзень сустракаеш такога чалавека. Шрыфтавое мастацтва — адно з самых старажытных, яно цікавіла Мацура заўсёды. У мастацкае вучылішча творца паступіў юнаком, вучыўся там чатыры гады, а потым яшчэ пяць — у Акадэміі. У студэнцкія гады адным з любімых прадметаў была анатомія, жонка смяецца: «Калі не мастаком, то, напэўна, быў бы хірургам».

Сярод прылад працы ў творцы шмат усяго: пёркі, пэндзлі, інструменты з чароту.

Некаторыя з прыстасаванняў Генадзь зрабіў самастойна. Мастак працягвае круглы пэндзаль: «Кітайцы і японцы такімі працуюць. Я таксама трошкі яго выкарыстоўваю, але для сябе. Канешне, магчыма і ў іншую культуру ўжыцца, але лепш нарадзіцца кітайцам, што ўжо ў прынцыпе немагчыма», — жартуе мастак. Як ён тлумачыць, з іншай культуры пачуццё свету для сябе цяжка ўзяць. Але часам трэба так рабіць, і ў гэтым нічога дрэннага няма.

Работы мастака мяне здзіўляюць, раней я чамусьці лічыла, што каліграфія — гэта нешта накшталт акадэмічнага пісьма, а цяпер бачу, што ў гэтай сферы таксама ёсць месца эмоцыям і экспрэсіі. Тэмы для работ Мацур абірае вельмі цікавыя: тут і «Пагоня» Багдановіча, і фрагменты з творчасці Быкава, урыўкі з Свяшчэннага Пісання і фальклорныя песні. Адзін з твораў мастака нават нанеслі на ветразі ў рамках выставы ў Клайпедзе.

На думку Генадзя, мастацтва і спорт чымсьці падобныя: спачатку ідзе размінка, на якую сыходзіць некалькі аркушаў, каб разагрэцца, потым ужо работа. «Заўсёды трэба быць у форме. Чалавеку, які займаецца каліграфіяй, вельмі важна мець здароўе. Калі ты хварэеш, то і лініі ў цябе будуць такія ж хворыя».

Генадзь Іванавіч кажа, што каліграфія — гэта мастацтва, якім не падманеш. Тут не зробіш эскіз. Зразумела, можна трымаць у галаве нейкую абстрактную задуму, аднак што атрымаецца — ты не ведаеш. Магчыма ўяўляць, кіраваць, але немагчыма ведаць.

Калі ён стварае эмацыянальныя росчыркі, не прыдумляе для кожнага свой вобраз — усё роўна ўсе бачаць рознае. Гэта як глядзець на аблокі.

Яна Мусвідас









# Вучымся маляваць галаву

Вітаю, дружа! Працягваем паглыбляцца ў малявальную грамату. Мы прыпыняліся на маляванні агульнай паставы чалавека, цяпер надышоў час азнаямлення з малюнкам галавы. Не будзе лішнім зазначыць, што галава патрабуе грунтоўнага вывучэння яе будовы. Веданне схемы малявання галавы надасць больш пераканаўчасці тваім малюнкам. Асобны жанр малявання чалавека — партрэт. Упэўнена, табе неаднаразова хацелася намаляваць партрэт сябра, музыкі, сябе самога. Гэты мануал дазволіць табе разабрацца у будове галавы, зразумець асноўную канструкцыю, якую варта вывучыць літаральна на памяць. Ты зможаш прымяняць яе да любога партрэта ці выявы чалавека. А пасля ўжо надаваць індывідуальныя рысы. Падабенства да канкрэтнага чалавека — рэч складаная, адразу не атрымаецца. Але правільная агульная выява галавы — гарантавана.

Рэкамендую, асвоіўшы будову галавы, практыкавацца ў маляванні з натуры. Так ты замацуеш веды, схема дапаможа табе ўбачыць агульныя формы, не засяроджваючы ўвагу на другасных і павярхоўных дэталях.

1. Малюем шар — ён будзе асновай канструкцыі. Шар збольшага супадае па форме з чарапной каробкай. Ракурс галавы будзе ў палову абароту, і, маючы гэта на ўвазе, знізу навешваем ніжнюю сківіцу. Праводзім цэнтральную лінію твару, лінію ніжняй сківіцы, лінію злому дзвюх плоскасцей: бакавой і цэнтральнай, а таксама лінію броваў.

2. Дадаём лініі, на якіх змесцяцца лобныя бугры, вочы, скулы, крылы носа, лінія рота, падбароддзе. Паколькі галава павернута, лініі павінны скарачацца ў перспектыве. Выбіраем умоўную кропку на «лініі гарызонту», і накіроўваем лініі



ў гэтую кропку (яна будзе знаходзіцца далёка за плоскасцю аркуша). Абазначаем шыю і вушы.

3. Вядзём малюнак у выглядзе ўмоўнай схемы, «абрубоўкі» галавы. Гэта патрэбна для таго, каб абагульніць формы, падкрэсліць найбольш важныя моманты. Найперш прамалёўваем лінію праламлення галавы на дзве плоскасці — бакавую і франтальную. Гэта лобны бугор, надброўная дуга, скула, падбароддзе. Вочы пакуль што пазначаем ў выглядзе шароў.

4. Затым знаходзім плоскасць ілба — а яна ў сваю чаргу дзеліцца на тры плоскасці. Плоскасць скроні пераходзіць у прадаўгаватую скулавую косць, якая ідзе да вуха. Прамалёўваем пляцоўкі над бровамі і пад вачыма, абазначаем вочы, нос. Нос беспамылкова можна намаляваць як трохгранную прызму. Вусны з мышцамі ўтвараюць «сферу», якая крыху выступае над тварам. Абазначаем падбароддзе. Знаходзім самую выступаючую пляцоўку на падбароддзі. Шыю ўмоўна абазначым як цыліндр.

5. Цяпер, калі мы зрабілі лінейную пабудову галавы, трэба падкрэсліць форму тонам. Святло будзе падаць злева. Лёгкай штрыхоўкай пакрываем усю бакавую плоскасць галавы. Заштрыхоўваем пляцоўку пад пераноссем і пад бровамі, пляцоўку пад носам, пад верхняй губой, пад ніжняй губой, пад ніжняй сківіцай. Штрыхуем вочы, маючы на ўвазе форму шара, але дадаём павекі. Часцей за ўсё святло будзе падаць на галаву зверху (пры дзённым святле, у памяшканні).

6. Працягваем удакладненне святлоценявой мадэліроўкі. Вызначаем, што для нас з'яўляецца пярэднім планам. Гэта будзе нос, а значыць таўсцейшымі лініямі трэба падкрэсліць праламленне святла і ценю. Такім жа чынам падкрэсліваем цень пад верхняй губой, скулай, брывом. Але акцэнт павінен застацца «на носе».

Мы зрабілі схематычны малюнак галавы, які будзе служыць базай для рэалістычнага малюнка, знаёмства з якім чакае цябе далей.

Алеся Галота





# Бясстрашная здань і паравая машына

Уільям Цёрнэр — англійскі жывапісец. Жыў у канцы XVIII — сярэдзіне XIX стагоддзя, працаваў у жанры пейзажа. Жывапіс Цёрнэра выцякае са школы англійскага пейзажа — важнай з'явы ў гісторыі мастацтва. Пры гэтым Уільям Цёрнэр — вынаходнік, наватар. Яго не разумелі ў свой час. Палотны Цёрнэра апярэдзілі імпрэсіянізм і сталі штуршком для развіцця жывапіснага мастацтва.

Палатно «Апошні рэйс фрэгата «Бясстрашны» (1839) лічыцца вяршыняй творчасці мастака. Цёрнэр на гэтым палатне хацеў увекавечыць памяць ваеннага карабля, удзельніка слаўнай Трафальгарскай бітвы, па выніках якой адчулася перавага англічан на моры.

Цікава, што фрэгат «Бясстрашны» цьмянее перад абрысамі буксіра. Жалезная махіна прапісана дакладна і сакавіта. Фрэгат жа нагадвае хутчэй здань. Выцвілы, з мірным белым сцяжком на мачце. Пераможца франка-іспанскай флатыліі, стары і непатрэбны, адслужыў, і цяпер яго цягнуць у прыстань, каб там разабраць. Імаверна, мастак выкарыстоўвае вобразы фрэгата і буксіра як метафары. І палатно набывае сімвалічнасць — Цёрнэр ілюструе адыход старой эпохі і прыход новай. Баявы лідар паруснага флоту, хоць і магутны ў мінулым, аказваецца непатрэбным і неэфектыўным у час паравых машын.

Што мы бачым над воднай гладдзю? Высокае, шчодра памаляванае пунсовымі промнямі неба. Імжыстыя аблокі рухаюцца праз палатно, дожджык мігціць над вадою. Адначасова бачым на небе і месяц, і сонца. Апошняе нібыта асляпляе гледача перад тым, як закаціцца за гарызонт. У гэтым вобразе бачыцца метафара канца жыцця моцнага, выпрабаванага лёсам чалавека, які сыходзіць са «сцэны», нібы баявы фрэгат.

Кампазіцыя палатна трымаецца на трохвугольніку. Галоўны кампазіцыйны вузел злева — буксір на фоне бледнай фігуры фрэгата. Справа іх ураўнаважвае фокус на сонцы ў дальняй кропцы гарызонту. Трэці кут — цёмны аб'ект — труба, што ўздымаецца з вады.

Паэтычны настрой палатна, рух паветра і вады, асаблівае, крыху цьмянае святло — характэрныя рысы жывапісу Уільяма Цёрнэра, за якія нельга не палюбіць майстра.

Алеся Галота

Хведар Гурыновіч

# Першародным быць усё павінна...

## Галалёд

Дзед кійком па бруку ляскаў,
Уздыхаў:
— Якое ліха!
Ну, ці ж гэта з Божай ласкі
То мароз, а то адліга?!

Дождж ык плюхаў манатонна,
Правадоў гудзелі струны.
Ціскануў мароз раптоўна
Разам з месячыкам юным.

Ён цяплу наставіў рогі,
Лёдам згладзіў снег расталы.
Лёд пакрыў усе дарогі,
Гарадскія ўсе кварталы.

Хоць трымайся ты за сцены.
Нат паркет так не навошчыш.
Горад стаў катком суцэльным,
І хакей — на кожнай плошчы.

Каўзаціць дзятва са смехам
Пад зялёным святлафорам.
На «каток» баіцца ўз’ехаць
Джып з заведзеным маторам.



*Беларускі пісьменнік Хведар Гурыновіч больш за трыццаць гадоў адпрацаваў у газеце беларускіх шахцёраў «Калийщик Солигорска», прычым, апошнія 12 гадоў — рэдактарам гэтага выдання. Выдаў шмат кніг, у тым ліку і дзіцячых.*

Перапынак

# Папялушкі

Удзельнічаюць дзве каманды. Перад кожнай ставяць тры пустыя вазачкі і адну з сухімі макароннымі вырабамі трох відаў. Задача: раскласці макаронныя вырабы па відах у асобныя вазачкі. Перамагае каманда, якая зробіць гэта першай.

## Ландышы

Прадаюцца ландышы
На базарнай плошчы!
З хмаркі, коса глянуўшы,
Цёплы дожджык хвошча.

А гандлярка кветачкі
Душыць тонкай ніццю:
— Гэ-эй, купіце, дзетачкі,
Ла-а-андышы купіце!

На шырокім лісцейку
Роўненькім радочкам
Сум пахучых, чысценькіх
Беленькіх збаночкаў.

Дождж — нібыта ў тропіках,
Быў жа ранак ясны.
І сцякаюць кропелькі
З белага фаянсу.

Дар вясны прыкмеціўшы,
Крочыць горад сонна...
У тугіх букецiках —
Крадзенае сонца.

## Карова

У чарадзе ідуць каровы з пашы,
Няспешна йдуць, паважна йдуць усе.
А разам з імі і рагуля наша
Больш за вядро нам малака нясе.

Рабыя, круглабокія, мажныя,
Шырока — на ўсю вуліцу — ідуць.
І не аб'едзе іх ніяк машына,
І шчэміцца нахабна ў чараду.

Каровы толькі лыпаюць вачамі
Ды ў цесны гурт збіваюцца ямчэй.
Абуранае цягнецца мычанне,
І сліна з пыс зялёная цячэ.

А вечар цёплы, першамайскі, весні,
Але яшчэ без мух і камароў.
І гаспадынькі ўжо стаяць ля весніц,
Не дачакаюцца сваіх кароў.

І наша мама сустракае Кветку
Пачціва так, нібыта першы раз.
І кліча нас:
— Бярыце кубкі, дзеткі,
Я сырадоем пачастую вас.

На ўслончык ля карміцелькі садзіцца.
І з ружаватых Кветкавых сaскоў
Струменьчыкі мільгаюць, быццам
спіцы,
І радасна пазвоньвае ў дайніцу
Пахучае жывое малако.

## Экалогія

— Гэта трэба ж, выпрамілі рэкі,
Ой, дарма ўсё гэта, ой, дарма!
Бач, прырода помсціць чалавеку:
То паўгода дождджыку няма,

То зіма без снегу ўжо каторы
Год;
Ці ж так было раней калі?
Што ж вы там, нябесныя канторы?! —
І цыгарку дзядзька прысмаліў.

— Першародным быць усё павінна, —
І ўздыхае з горыччу Іван. —
Вось яшчэ вам, хлопчыкі, навіны:
Памідоры ноччу «з'еў» туман.

Нават птушкі пеўчыя змаўкаюць,
І да кроплі высахла рака.
Гэта ж экалогія такая, —
Вучаць дзетак нават у садках.

О, цяпер даведаліся многія,
Хто яна такая — экалогія.

Мастачка Дана Цюперак

Алег Ждан

# Пярсцёнак, завушніцы і гадзюка на шыі

*Дадатак да аповесці Алега Ждана «Прынцэса», якая друкавалася ў «Бярозцы» ў 2015 годзе*

## Залаты пярсцёнак



Дзіўная чутка праляцела перад канікуламі: класная збіраецца замуж. Увогуле замужжа для маладой жанчыны — справа звычайная. Як кажуць, чаму б і не? Але з другога боку... Неяк гэта было падобна на здраду...

Цікава, што дзяўчынкі паставіліся да гэтай весткі з большай цярплівасцю, нават з ухвалай. Ленка, напрыклад, заявіла: «Трэба яе павіншаваць!» А Каця сказала: «Добра было б даведацца, дзе будзе вяселле. Сфоткаць і выкласці ў Інтэрнэт. Будзе першай прыгажуняй на фэйсбуку!»

Хутка чуткі пацвердзіліся: жыла яна не блізка, але цяпер кожны дзень нехта падвозіў яе да школы. Нехта бачыў, як, развітваючыся, яна пацалавала вадзіцеля ў шчаку. Нехта чуў, як пяшчотна размаўляла з кімсьці па мабільніку. Яна і раней апраналася прыгожа, а цяпер асабліва разважліва: ледзьве ці не кожны дзень нешта новае. Галоўнае ж — усміхалася, але не нам, а некуды ў прастору. Станавілася пахмурнай, калі ўзнікалі праблемы ў класе, але пад маскай незадаволенасці хавалася ўсмешка.

Разам з тым нам цяпер яна ўдзяляла меней увагі. Спяшалася пасля заняткаў дахаты: недзе там у яе было сапраўднае жыццё.

Так разважалі мы, хлопцы. Не ведаю, можа быць, у дзяўчынак былі іншыя меркаванні і назіранні.

Тым не меней аднойчы мы ўбачылі нашага класнага кіраўніка заплаканай. Яна ішла па калідоры і твар яе быў увесь у чырвоных плямах, а пад вачыма цякла туш. «Што здарылася, Ніна Леанідаўна?» — запыталася Ленка. Але яна толькі махнула рукою і скіравала да кабінета геаграфіі. Шчоўкнуў замок дзвярэй.

А Ленка ўжо праз пяць мінут ведала, што здарылася: да слёз нашу класную давёў Сямён Гаркач з 8 «Б». І такое здаралася не першы раз.

— Хлопчыкі, — сказала Ленка, — трэба нешта рабіць. Тэрмінова!

Сямёна Гаркача ведала ўся школа. Праславіўся ён яшчэ два гады назад, калі зрэзаў у гардэробе гузікі ў паліто і куртках дзяўчат. І нават не здагадаўся выкінуць іх у сметніцу, а схаваў у свой заплечнік. А заплечнік з дзіркай, гузікі і пасыпаліся. Дый ўвогуле, шмат чаго было за ім. Трэба сказаць, яго пабойваліся,

асабліва дзяўчынкі. Ды і хлопцы стараліся не звязвацца. Сяброў у яго не было, і на перапынках ён з крыкам як вар'ят лётаў па калідорах, штурхаючы ўсіх, хто трапляўся на яго шляху. Даставалася ад яго і настаўнікам.

— Усё! — прамовіў Пельмень. — Гаркач прапаў! — І павярнуўся да нас з Юрам. — Пагаворым?

— Пагаворым!

— Не, хлопцы, — захвалявалася Ленка, — толькі без рук.

— Не перажывай, — сказаў Пельмень.

Не, мы яго не білі. Але зусім ужо без рук не атрымалася. Пельмень прыціснуў Гаркача да сцяны і схапіў за каўнер кашулі. Мы з Юрам стаялі па баках.

— Калі ты на геаграфіі яшчэ хоць раз вякнеш, я табе кадык вырву, — пагрозліва рыкнуў у саменькае вуха. — Зразумеў?

Сямён вытрашчыў вочы і маўчаў.

Не ў стане быў нешта адказваць.

— Адпусці яго, — сказаў Юра. — Брыдка глядзець.

Ну а я нічога не сказаў. Па-першае, таму, што стала шкада яго, сіне-зялёнага, па-другое, і праўда брыдка: шморгаў саплівым носам і тупа міргаў, гледзячы на Мішку.

— Зразумеў?

Нарэшце адпусціў Гаркача.

— Добра ты пра кадык увярнуў, — сказаў Юра.

— Гэта я ў кіно пра бандзюганаў чуў, — засмяяўся Пельмень.

Канешне ж, выгляд у яго, калі прыціснуў Гаркача, быў пагрозлівы, але на самай справе хлопец ён добры.

Праз пару дзён Ленка пабывала ў 8 «Б», пацікавілася, што і як. А вярнуўшыся, загадкава прамовіла такую фразу:

— Цішыня і спакой.

Ніхто гэтай фразы не зразумеў, акрамя Мішкі, Юры і мяне.

Калі мы былі ў пятым і шостым класах, класная па два разы на год наведвала нашы кватэры. Знаёмілася з бацькамі, з умовамі жыцця. Спярша ўсе палохаліся, асабліва бабуля: «І што ён там нарабіў?» Я гэтага таксама не любіў: прыход класнай — заўсёды небяспека, нават калі ты нічога такога і не нарабіў. У сёмым класе яна прыходзіла толькі адзін раз, а ў гэтым годзе і ўвогуле ніводнага. Канешне, колькі можна. А вось бацькі мае цікавіліся: што гэта Ніна Леанідаўна не прыходзіць? Вельмі яна спадабалася бабулі, ды і маме таксама. Толькі тата не выказаў свайго меркавання-адносін, але я бачу, што спадабалася яна і яму. «Што ж гэта ты маўчыш? — спыталася мама. — Ці не закахаўся раптам?» Справа ў тым, што тата не вельмі любіць лішняга гаварыць, і, напрыклад, калі закахаўся ў маму, маўчаў як рыба. Давялося маме самой гаварыць і без слоў усё разумець. «Яна не замужам?» — пацікавіўся тата. «Сапраўды закахаўся!» — сказала мама. «Развод не атрымаеш ні пад якім выглядам!» Тата заўсміхаўся.

Канешне, гэта былі жарты. А вось бабуля такі гумар не прызнавала. Падымала бровы і паціскала плячыма. Маўляў, што ў гэтым смешнага? Ні-чо-га!

І раптам класная сказала: «Андрэй, я хачу пагаварыць з тваімі бацькамі. Папярэдзь іх, што прыйду заўтра». Ну-у… вось такая навіна… Я ж гаварыў: прыход

класнай — небяспека. Між іншым, бабуля таксама захвалявалася: што гатаваць, чым частаваць? Ды і парадак у кватэры павінен быць ідэальным… І, канешне ж, на мяне ўсе глядзелі з падазрэннем: усё ж такі, пэўна, нешта ён вытварыў…

Прыйшла Ніна Леанідаўна ўвечары, а сёмай, калі ўжо ўсе былі дома, нават тата, хоць звычайна ён вяртаецца дадому недзе каля дзевяці. А прычына яе візіту аказалася вельмі простай: набліжаліся летнія канікулы, час рамонту памяшканняў у школе, і класная хацела ведаць, чым і калі змогуць дапамагчы ў рамонце мае бацькі. Раней, калі яна прыходзіла, то ні ў якім разе не садзілася за стол, а тут пагадзілася разам з намі папіць гарбаты і нават дастала з сумачкі шакаладку.

Асабліва агітаваць бацькоў ёй не давялося, абодва пагадзіліся адразу, а тата нават заявіў, што нядаўна набыў набор сталярных інструментаў і з задавальненнем паспрабуе іх у рабоце. Ён нават пацёр далоні і пляснуў як на канцэрце, што ніколькі не ацаніла мама. «Закахаўся!» — сказала яна без усялякага гумару, калі класная пайшла. (Адразу скажу: удзел у рамонце класа мае бацькі прынялі: мама фарбавала вокны, тата рамантаваў парты.) Як высветлілася, пабывала класная амаль ва ўсіх вучняў. У выніку ў прызначаны дзень прыйшло шмат бацькоў. Зрабілі патрэбны рамонт і — развіталіся да восені…

Не, даведацца пра дзень вяселля Ніны Леанідаўны у нас так і не атрымалася, але калі прыйшлі ў школу пасля канікул, то ўбачылі на яе руцэ тонкі залаты пярсцёнак…

## Лёха прыйшоў!

*(Прызнанне і мары Аляксея Касцeнчыка)*

— Гэта я так, для цікавасці напісаў. На самай справе, па-першае, прызнавацца мне асабліва няма ў чым. Па-другое, мяне не тое што Аляксеем — нават Лёшам не называюць, хіба што дома, ды класная Ніна Леанідаўна. А так усе — Лёха ды Лёха... Але я не ў крыўдзе. Лёха дык Лёха, якая розніца. Ну, не тое, каб ужо нейкая такая несправядлівасць, але ж няправільнасць. Ну, не няправільнасць, а... Не, не ведаю, як сказаць.

Карацей, яшчэ ў першым класе я трапіў у клас «Б». Усе з нашага двара — Андрэй Бабушкін, Мішка Сідарчук, Юрка Салавей, Ленка Гушчына — усе ў «А», а мяне загналі ў «Б». Я тады думаў — ну, якая розніца, можа быць, так і трэба, пасяджу пакуль што, дзе пасадзілі, а высветлілася — гэта на ўсё жыццё. Вось ужо і восьмы клас...



Ды не, клас у нас неблагі, нават добры, а ўсё роўна крыўдна: усе нашы там, а я тут. Ды яны, «акаўцы», гэтага не разумеюць. Ім усё роўна.

Так атрымалася па жыцці, што ва ўсіх ёсць якія-небудзь таленты: Юрка — шахматыст, Пельмень — будучы чэмпіён па ўсіх відах спорту, Ленка ўвогуле талент, круглая выдатніца, Андрэй вершы піша, і толькі ў мяне ніякіх талентаў. Не. Штосьці і я магу, напрыклад, фокус з мабільнікам: дастану свой з чужой кішэні, умею гаварыць рознымі галасамі, напрыклад, дырэктара, фізкультурніка Гіры... Асабліва гэта: «Хто будзе Рррадзіму абараняць?!» Ці: «Эй, дыстрофікі, укалваць трэба, араць!» А больш у мяне ніякіх талентаў. І тады я вырашыў напісаць якое-небудзь апавяданне. Ці раман. Ну, не ведаю. Што атрымаецца. Напрыклад, пра футбол. Пра тое, як на мяне звалілася слава варатара.

Стаць варатарам я марыў даўно, а атрымалася выпадкова. Справа ў тым, што ў мяне прыроджаная скакучасць, мой бацька гаворыць, што я яшчэ хадзіць не ўмеў, а ўжо скакаў. Усе школьныя рэкорды — мае. Толькі што — рэкорды? Скокнуў і ўсё. Табе пapляскалі і адразу ж забыліся. Іншая справа — варатар. Два таймы ўсе глядзяць на цябе, хвалююцца... Можна сказаць, вынік матча залежыць перш-наперш ад цябе. А пасля ж і настрой балельшчыкаў — ад цябе.

Здарылася гэта яшчэ летась, у верасні. Наша каманда сустракалася з 51-й школай, а Сяргей Качуба, варатар нашай, захварэў. Што рабіць? Я і кажу: «Пастаўце мяне». А ўсе: «Ды ну! Не хапала! Ха-ха! Ён пастаіць! Дзірка!» Мне, зразумела, стала моцна крыўдна. «А што? — сказаў Гіра. — Здольнасці да скокаў у яго добрыя. Няхай пастаіць». І так я скакаў, так кідаўся пад ногі нападаючым з 51-й, што яны баяліся наблізіцца да маіх варот. Ну, а нашы нападаючыя таксама працавалі. Словам, мы іх парвалі. Адзін толькі Пельмень забіў два галы. А калі я ўзяў штрафны адзінаццаціметровы — мяне ўвогуле качалі і падкідвалі. Хоць, канешне ж, мне проста пашчасціла: мяч трапіў прама ў рукі. «Талент! — крычаў пасля матча Гіра. — Геній!» А вось дырэктар, калі яму пасля расказалі пра матч, глядзеў на мяне з недаверам, маўляў, прыдумалі, такога не можа быць.

Кватэра ў нас невялікая, два пакоі, у адным бацька-маці, у другім, маленькім, мы з сястрою. Яна ў сваім куточку панавешвала ўсялякіх топ-мадэляў, артыстак, спявачак, а я лепшых варатароў свету, ад «чорнага павука» Льва Яшына і Гордана Бэнка да Мануэля Нойера, Клаўдзіа Брава і шмат каго яшчэ.

Наша мама марыць пра такую вялікую кватэру, каб у кожнага быў свой пакой. Я і кажу ёй: пачакай, усё будзе. І вялікая кватэра, і машына. Яна смяецца: адкуль? А я: ведаеш, колькі плацяць добрым варатарам? Колькі? — пытаецца і зноў смяецца. Дык я дакладна не ведаю. Ведаю, што нядрэнна. На ўсё хопіць. Гледзячы, канешне ж, які кантракт прапануюць. Тут ужо я буду стаяць да канца. Думаеш, прапануюць? — мама проста ўжо заходзіцца ад смеху. А куды яны дзенуцца, — адказваю. — Добрых варатароў у свеце — па пальцах пералічыць.

Тут, канешне ж, Ірка, сястра ўлазіць. Я, матулечка, калі стану зоркай, табе такую шубу куплю! Ты не ўяўляеш!.. Якую? — зноў усміхаецца мама. Ну вось, як у цёткі Машы. Цётка Маша — суседка. У яе і кватэра вялікая, і шуб шмат. Значыць, норкавую? — Так, норкавую!

І ўсім робіцца весела. А што, Ірка дзяўчынка класная. Можа быць, і стане мадэллю ці кім яшчэ. Вось толькі мадэлі павінны быць худзючымі, такімі, каб косткі грымелі, а Ірка пухнаценькая і есць як не ў сябе.

А яшчэ я хацеў бы арганізаваць групу — ну, накшталт ліверпульскай чацвёркі. Нават прапанаваў Андрэю, Юрку, Пельменю зрабіць такую групу, дык яны, дурні, паднялі мяне на смех. І дарэмна. Я ўжо некалькі акордаў на гітары ведаю, цяпер трэба прыдумаць песню і ўсё пойдзе як па масле. Увогуле, трэба сказаць, жыццё ўладкавана няблага: толькі вазьміся за што-небудзь — адразу атрымліваецца. Настаўнікі гавораць, што трэба выбраць сабе нешта адно і ісці далей. Але мне, напрыклад, не цікава, калі адно. Я хачу больш. І варатаром гуляць у добрай камандзе, і групу арганізаваць, і кнігу напісаць. Думаеце, не атрымаецца? Атрымаецца! Галоўнае, узяцца.

Надзеі на будучыню ў мяне вялікія. Канешне ж, хачу і грошай зарабіць, і прыдумаць нешта такое, каб усе ахнулі.

А калі па праўдзе, ведаеце, чаго я больш за ўсё на свеце хачу? Сказаць?.. Не, не скажу, будзеце смяяцца, калі скажу, лепш пакуль памаўчу.

Андрэй Бабушкін. Увогуле ён моцна змяніўся за апошнія гады. Было ледзь што ныў, плакаў... Вечна лез туды, куды не клікалі, а праганялі — крыўдзіўся... Гэтыя яго дрыготкія вусны, вочы вінаватыя, заіканне... Ажно да пятага класа. А цяпер нічога. Гэта яму футбол дапамог. Раней боўтаўся і ў школе, і ў двары як непрыкаяны, а цяпер ён надзея школы — варатар! Ды, варта прызнаць, варатар ён смелы — кідаецца пад ногі, як смяротнік, скача, як малпа па ліянах. Ну і Ленка, канешне, паўплывала: «Хлопец ты ці не?»

Лена Гушчына. Я думаю, што мы яго не разумелі і таму недаацэньвалі. Не, сябры, штосьці асаблівае ў ім ёсць. Так, асаблівае. Такое, чаго няма ў іншых.

Юра Салавей. Ды што там — не разумелі, недаацэньвалі.. Калі з'явілася за што — ацанілі. Балбатун ён, вось хто.

Андрэй Бабушкін. Па-мойму, у яго нават паходка змянілася. Бывала, ішоў — азіраўся. Па сценачцы прабіраўся. А цяпер? Дзелавы!..

Лена Гушчына. Не выдумляй, Андрэй. Паходка як паходка.

Юра Салавей. А гэтая яго ідэя групу арганізаваць. Вывучыў тры акорды — і ўжо Пол Макартні.

Лена Гушчына. Так, з групай ён перабраў. Хоць... Ёсць і такія выпадкі: маўчаў, маўчаў — і заспяваў.

Юра Салавей. Няма такіх выпадкаў.

Андрэй Бабушкін. А як стаіць на варотах?

Юра Салавей. Дрэнна стаіць. Проста яго ўсе баяцца. Кідаецца пад ногі як камікадзэ.

Лена Гушчына. Ну ты, Юра, занадта. Футбол — гэта табе не шахматы.

Юра Салавей. Сапраўды. Шахматы — гэта не футбол. Тут смеласцю нічога не даб'ешся... Ды не, хлопец ён нядрэнны, але...

Андрэй Бабушкін. А хто гаворыць — дрэнны? Нармальны пацан.

Лена Гушчына. А я думаю, калі хто з нас чаго даб'ецца ў будучыні, дык гэта Касценчык.

Юра Салавей (*сярдзіта*). Чаму ты так думаеш?

Лена Гушчына. У яго ёсць нейкая ідэя. Вельмі важная.

Юра Салавей (*насмешліва*). Якая?

Лена Гушчына. Не ведаю. Адчуваю, што ёсць. У нас няма, а ў яго ёсць.

Юра Салавей. Глупства. Ідэі прыходзяць і сыходзяць.

Андрэй Бабушкін. А я думаю, галоўнае — удача. Шанцаванне. Калі не шанцуе, якія б ні былі таленты, усё дрэнна. Лыжкай у рот не патрапіш, калі не шанцуе.

Юра Салавей. І гэта лухта. Добра, канешне, калі шанцуе. Але ж вечна так не бывае.

Лена Гушчына. Тады што галоўнае?

Юра Салавей. Гэтага ніхто не ведае.

Андрэй Бабушкін. Чаму — ніхто? Наш фізкультурнік, Гіра, ведае: «Укалваць трэба, араць!»

Успомнілі Гіру і рассмяяліся. Гіра любіць выдаць нешта такое, каб у левым вуху зазвінела.

І тэму гэту абмяркоўваць закончылі.

Я ведаю, яны нада мною смяюцца. Юрка нават мянушку мне даў: «Лёха тры акорды». І дарэмна смяюцца! Пройдзе не так шмат часу — усе ўбачаць. Вельмі хутка я стану вялікім варатарам ці музыкантам, зараблю шмат грошай і тады... Пельмень марыць злятаць у космас — я яму, хоць мы і біліся не аднойчы, куплю білет на турыстычны палёт; Юрка марыць стаць вялікім матэматыкам ці праграмістам — падару яму самы магутны камп'ютар; Каця любіць усялякія такія дзявочыя вісюлькі — падару ёй прыгожыя завушнічкі і пярсцёнак. Андрэй хоча стаць знакамітым паэтам — дам яму грошай на сваю вялікую і прыгожую кнігу. Ленка хоча стаць добрай настаўніцай геаграфіі — куплю ёй білет на падарожжа вакол свету!

Ну а асабіста мне шмат грошай не трэба. Навошта? Мне і так добра. Адзінае, чаго я жадаю...

Жадаю, каб усе ўсміхаліся, калі я ўваходжу, і казалі: «Лёха прыйшоў, Лёха прыйшоў!» Уласна кажучы, болей любому чалавеку нічога і не трэба.

А раман што! Раман заўсёды напішам.

## Юра і Маргарыта

Пасля таго, як Пельмень, гэта значыць, Мішка Сідарчук, сышоў з нашай школы, Гіра, гэта значыць, Яўген Іванавіч, наш фізкультурнік, засумаваў. Перастаў пакрыкваць на нас, перастаў у канцы ўрока паказваць свае ўласныя практыкаванні на перакладзіне. На перапынку не з'яўляўся ў калідорах, а калі і з'яўляўся, ішоў, павесіўшы галаву, ні на каго не гледзячы. Здавалася, жыццё яго дало расколіну і згубіла частку сэнсу.

Але аднойчы падчас урока яго вочы ажывіліся, быццам прыйшла ў галаву важная ідэя. Ён падышоў да Юры Салаўя і раптам пагладзіў яго па галаве.

— Чаму ты перастаў гуляць у шахматы? — спытаў ён ласкава.

Юра маўчаў.

— Такая выдатная гульня! Ін... тэл... лект... Карацей кажучы, не для дурняў. Хто ведае, можа быць, шахматы будуць унесены ў спіс Алімпійскіх гульняў! А калі і не

будуць? Хіба так дрэнна стаць чэмпіёнам свету? Ці нават проста гросмайстрам? Чыгорын, Капабланка, Таль, Фішэр, Бацвіннік... Якія імёны, а?

Юра маўчаў.

— Думай, Юра, думай!

Між іншым, уважліва паглядзеў і на Ленку.

— У цябе таксама была вялікая будучыня, — сказаў. — Асабліва прыгожа атрымлівалася ў цябе са стужкамі. І якая была фігурка? А цяпер? Глядзі, якая стала тоўстая!

Ну, гэта было няпраўдай, тоўстай Ленка не выглядала. Не толькі няпраўда, але і несправядліва. Слёзы задрыжэлі ў яе на павеках.

Карацей кажучы, педагагічны крызіс у Гіры мінуў.

Аднак Юра ў шахматную секцыю не вярнуўся.

У яго здарылася бяда: ён уцюрыўся. І цяпер прадметам яго ўвагі стала не Аленка, не Каця, а Маргарыта з 8 «Б». Хоць і ведаў жа ён яе восем гадоў і — не звяртаў ніякай увагі, а тут — вось вам, калі ласка. Проста бяда.

Хоць, сказаць, што зусім ужо не заўважаў, няправільна. У школьнай сталовай мы сядзелі амаль побач, за суседнімі сталамі, і зусім ужо не заўважаць адзін аднаго не маглі. Але аднойчы Юра, смакуючы курыную ножку, можа, проста так, без усялякага інтымнага значэння, заглядзеўся на Маргарыту. Жаваў і глядзеў, жаваў і глядзеў. І рабіў гэта вельмі тупа. Цмокаў і жвякаў. Гэта значыць, ні пра што асабліва не думаў, не разважаў, ці, можа, думаў пра тое, якая смачная патрапілася ножка. А Рыце гэта, відаць, не спадабалася, і яна паказала яму язык. Што? Язык? Яму, Юрку? Чаму? З чаго б гэта? За што?

І тады Юра перастаў жаваць і — уцюрыўся.

І гэты факт для школьнай грамадскасці не застаўся незаўважаным.

Настаўнікі, праўда, маўчалі. Яны з такою з'явай сутыкаліся ўжо не раз, але шкаляры — о, не, яны не такія велікадушныя, не такія добразычлівыя.

Канешне, што ні кажы, язык у Маргарыты быў выдатны — доўгі, мокры, чырвоны, але ці варта было з-за яго закахацца — гэта вялікае пытанне.

Яна кінула сваю курыную ножку і, нават не выпіўшы кампот, пайшла, махнуўшы падолам, са сталовай. Гэта значыць, пакрыўдзілася, нешта ёй моцна не спадабалася ў тым, як пазіраў на яе Юра. Яно і на самай справе, калі Юра пра нешта задумваўся, заўсёды вострая ўсмешка вісела ў яго на вуснах.

Але і Юра не даеў курыную ножку: яму не спадабаўся язык Маргарыты!

А вось сама Маргарыта спадабалася.

І што тут зробіш? Гавораць, з кожным такое здараецца. Ці абавязкова здарыцца. І, магчыма, чырвоны язык тут ні пры чым. Чырвоны язык — гэта як сігнал святлафора на пераходзе: стоп! І Юравы тармазы заскрыпелі. Усё. Уцюрыўся. А тады ўжо са скрыпам паехаў далей.

Не, нічога дзіўнага не здарылася. Дзяўчынка яна, трэба прызнаць, прыгожая, не сумная, нават спартыўная, праўда, вучыцца не вельмі, нават зусім дрэнна вучыцца, табліцу множання да гэтага часу не ведае, смех стаіць, калі да дошкі выклікаюць, ні бэ, ні мэ, ні кукарэку, але гэты яе сорам Юрку не бачны. Ды і якая яму розніца? Карацей, стаў ён на перапынках праходжвацца ля дзвярэй яе класа. Як быццам варту нясе. «Дзяжурыш?» — цікавіліся насмешнікі. Юра маўчаў. А што тут скажаш? Як ёсць, так ёсць. Цікава, што Маргарыта нічога

гэтага не заўважала. Ці рабіла выгляд, што не заўважала. Увогуле яна часта рабіла выгляд. Стаіць на перапынку дзе-небудзь у баку і нешта такое спрабуе паказаць. А можа, нічога і не адлюстроўвае, можа, яна такая і ёсць. Стаіць, коса пазірае і раптам — панеслася. Прамчалася, як каза, без усялякага сэнсу і зноў застыла. А Юра... Раней, пасля школы, пасля абеду, мы выходзілі ў двор — пагаварыць, размяцца, а цяпер — дзе ён? На варце! Прагульваецца каля яе дома. А яна...

Не так проста яе зразумець. Ну, як па мне, дык і не трэба, няхай жыве як жывецца. А вось Юра, напэўна, захацеў зразумець і — уцюрыўся. Канешне, можна паспачуваць старому сябру, а можна і здзівіцца. Ты чаго, Юрка? Кінь, канчай гэту справу, мужчынская дружба нашмат важнейшая за ўсялякія там пачуцці. Аднак можа высветліцца, што ў яго іншае меркаванне, гэтак можна і згубіць сябра... А так ёсць надзея, што ўсё само па сабе пройдзе.

Але не праходзіла.

Дзіўна іншае. Юрка пацан што трэба, усе з ім жадаюць сябраваць, калі што скажа — усе слухаюць, пакліча — усе за ім, нават наша класная, калі якое пытанне: «Юра, а ты як лічыш-думаеш?..» А вось яна, Маргарыта, гэтага не разумее, ёй усё гэта не цікава. Прама скажу: дурніца. Больш нічога не дадам. Дурніца — дурніца і ёсць. Але ж і не пагаворыш з ёю, не растлумачыш. Па-першае, сам Юрка скажа: чаго лезеш не ў сваю справу? Ну, а яна толькі фыркне як тая каза і махне падолам. Шкада сябра. Эх, Юрка, апамятайся!

Ну, гэта я так, сам пра сябе.

* * *

Юра і сам не разумеў, што здарылася, што такое з ім адбываецца. Чаму змянілася ўсё навокал і, галоўнае, раптоўна змянілася. Чаму яму стала цікава, у якім доме яна жыве, на якім паверсе, дзе акно яе пакоя. Горад велізарны, вуліцы перапоўнены людзьмі і машынамі, але нейкі безжыццёвы як пустыня да ўсходу сонца, як дэкарацыя фільма ці п'есы, пакуль не з'явіцца на сцэне яна.

Трэба было нешта зрабіць. У шахматах, ён ведаў гэта дакладна, калі чакаць — прайграеш. Гэта значыць, які б ні зрабіў ход — усё дрэнна. Значыць, трэба шукаць нейкі асаблівы. Напрыклад, пагаварыць з Маргарытай. Сказаць нешта такое, што здзівіла б і ўзрадавала яе на ўсё жыццё. Каб здзівілася. Каб яна спынілася, задумалася і зразумела, хто ёсць хто.

Перапынак

# Індзейскае імя

Лік удзельнікаў неабмежаваны. Кожны піша на адным аркушы любы назоўнік, на другім — любы прыметнік. Потым усе назоўнікі апускаюцца ў адну скрыню, усе прыметнікі — у другую. Напаўненне скрынь перамешваецца, і ўсе па чарзе выцягваюць па адным назоўніку і адным прыметніку. Выцягнутае кожным словазлучэнне становіцца «індзейскім» імем вучня на цэлы дзень. Напрыклад: «малінавае вуха» альбо «магутны агурок». Смешна атрымліваецца.

І аднойчы, убачыўшы яе, ён сказаў:

— Эй, чаго скачаш, як каза? Шкіпінарам намазалі?

Яна павінна была здзівіцца яго словам і здзівілася.

— Дурань, — сказала яна і паказала пачвару, самую брыдкую, якую толькі магла.

І, канешне ж, праўда была за ёю. У гэты момант ён адчуваў сябе поўным дурнем. Справа ў тым, што ён хацеў сказаць нешта іншае, ніяк не пра казу і шкіпінар.

Трэба было тэрмінова і прынцыпова мяняць тактыку. Трэба было сказаць ёй нешта асабліва прыемнае, пажадана дасціпнае, такое, што прымусіла б яе рассмяяцца ці хоць бы ўсміхнуцца. Патрэбны былі такія словы, пасля якіх іх адносіны змяніліся б раз і назаўсёды.

І ён знайшоў такія словы. Ён прычакаў яе пасля школы і сказаў:

— Прабач, Рыта, я зусім не тое хацеў сказаць... Ты не зразумела мяне... Па кітайскім гараскопе Сіняя Драўляная Каза — высакародная жывёла. Каза — талісман сёлетняга года. Калі ж гаварыць пра сапраўдных жывых коз, ёсць розныя... Адны для поўсці, іншыя для мяса ці малака... Ёсць вельмі каштоўныя... Вось як авечкі... Ёсць звычайныя, а ёсць танкарунныя, ёсць курдзючныя...

Танкарунныя — гэта ён пра яе валасы, пра прычоску — самую знакамітую ў школе: полымя на галаве. Зразумелая справа, хацеў сказаць камплімент, але Маргарыта спужана пазірала на яго. А затым кінулася да дома, і праз хвіліну, як гаворыцца, і след прастыў. А Юра застаўся на месцы, не разумеючы, што ён гаварыў і навошта.

Першай заўважыла перамены ў Юрку, канешне ж, Куля, гэта значыць, матэматычка. Раней складаныя задачкі рашалі каля дошкі ці Ленка, ці ён, Юрка. Цяпер Ленка засталася адна. Але і Ленка не заўсёды спраўлялася з новай задачай. І тады Тамара Мікалаеўна глядзела на Юрку. Аднак цяпер Юра пазіраў некуды далёка, туды, дзе няма ні матэматыкі, ні фізікі, ні рускай-беларускай моў. Туды, дзе нічога, акрамя... Ну так, акрамя казы Маргарыты.

— Юра, — сярдзіта сказала Куля, — што ў цябе з вачыма?

— А што? — дзёрзка спытаў ён.

— Вакуумная пустэча, вось што.

І перастала звяртаць на яго ўвагу. Яна такая. Пакуль стараешся, цвердзіш формулы, цягнеш руку — ты добры і разумны, як толькі задумаўся пра сваё — усё, тупіца безнадзейны.

Але Юра і хацеў, каб на яго перасталі звяртаць увагу.

Затым перамены заўважыла Ніна Леанідаўна, класная. Хоць, можа, яна заўважыла перш, чым Куля, але вырашыла не рэагаваць. І на самай справе, часам лепш прамаўчаць, і гэта якраз той выпадак.

Аднак, якое гэта, аказваецца, няшчасце — каханне. Няўжо штосьці такое чакае і мяне? Не, не хачу. Ды і пакуль я, слава богу, нічога такога-гэтакага не адчуваю. Ну так, мне моцна падабаецца Ленка, я з задавальненнем хадзіў бы з ёю ў кіно ці гуляў у парку, але так, каб як Юрка, пакутаваць... Праўда, кажуць, што гэта ад самога чалавека не залежыць. Што пачуццё гэтае, як навальніца з маланкай, так можа шандарахнуць... Вось Юрку і шандарахнула.

Я ж раней як лічыў? Закахаўся, ну і закахаўся. Ходзіш такі закаханы. Але ж не так яно тут было. У Юркі ўсё гэта неяк узмацнялася. Нарастала. Юрка мяняўся на вачах. Яшчэ ўчора ў яго было адметнае пачуццё гумару, толькі рот адкрые — усе ад

смеху покатам, а сёння... Які гумар?! Учора ён быў лепшым матэматыкам у школе, а сёння — да дошкі выклікаюць, а ён не чуе. Ну а што будзе заўтра, калі так?

Трэба прызнацца, усё гэта мяне моцна зачапіла. Захацелася даведацца, як было ў нашых з сястрой бацькоў.

— Мама, — спытаў я, — а тата да цябе моцна заляцаўся?

— Ну канешне, — адказала мама. — Іначай я не пайшла б за яго замуж.

— А хто першы закахаўся, ты ў яго ці тата ў цябе?

— Канешне, тата. Мужчына павінен першым закахацца.

— А як ён заляцаўся да цябе?

— Хадзіў следам з магнітолай. Уключыць на поўную моц і грыміць.

Бабуля з цікавасцю слухала нашу размову.

— А ў цябе, бабуля, як было? — спытаў я.

— Мы з тваім дзедам у вёсцы жылі, ніякіх магнітол у нас не было. Дзядуля твой свістаў.

— Як свістаў?

— Песні з кінафільмаў насвістваў.

— А ты, бабуля?

— А я адчыню акно і слухаю. Прыгожа свістаў.

Я ўявіў такую карціну, і мне спадабалася.

— Ты што, можа, закахаўся? — спытала мама.

— Не, Юрка закахаўся. Проста бяда. Ходзіць, як чумны.

— Нічога, пройдзе, — сказала бабуля.

А вось мама задумалася.

— Дзяўчынка добрая? — спытала яна.

— Каза, — адказаў я.

— Ну, гэта нічога, — неяк незразумела адгукнулася мама.

Цікава было б і з татам пагутарыць на гэту тэму, але баюся, ён падыме мяне на смех.

А ўвогуле, што я, як сябар, павінен рабіць у такой сітуацыі? Можа, пагаварыць з Маргарытай? Растлумачыць ёй, хто ёсць хто. Але як бы не зрабіць горш. Яна ж дзівачка. Акрамя таго, ва ўсіх розныя каштоўнасці. Для мяне ён сябра, для Кулі матэматык з вялікай будучыняй, для Гіры магчымы чэмпіён рэспублікі па шахматах... І гэтак далей. А для яе? Што для яе матэматыка, шахматы, чыясьці дружба?.. Пагаварыць з Юрам? Але пра што?..

Так, яна рабіла выгляд, што нічога не ведае, не заўважае. Але гэта няпраўда. Як гэта так? Уся школа бачыла-заўважала, што адбываецца, а яна не? Такога быць не можа. Я нават ведаю, пра што яны, дзяўчынкі, гаварылі між сабою. Напрыклад:

— Ну, ты ўжо занадта. Добры хлопец. І сімпатычны.

— Нахабнік. Назваў мяне сіняй драўлянай казой.

— Дык гэта па гараскопе.

— А яшчэ авечкай танкарунай.

— Падумаеш! Вось каб асліцай — гэта крыўдна.

— Ці авечкай курдзючнай...

— Ці...

Думаю, такія размовы вялі. А вось пра тое, што Юра лепшы матэматык ці шахматыст — не, не гаварылі. Што ім матэматыка?

Аднак паціху Юра прыходзіў у сябе. Усё ж такі ён моцны хлопец. Зноў пачаў рабіць урокі, радаваць Кулю і нават абнадзеіў Гіру. Сказаў: «Яўген Іванавіч, калі будуць якія спаборніцтвы па шахматах, скажыце». «Канешне, будуць! — адказаў Гіра. — Арганізуем!» Зноў жа, пачуццё гумару пачало прачынацца. Пачуццё свабоды. Ці, дакладней, вызвалення. Ён перастаў баяцца Маргарыты і з усмешкай пазіраў на яе. Увогуле, здавацца на міласць пераможцы не хацеў, а аднойчы, на школьнай дыскатэцы, падышоў да яе: «Ну што, каза, паскачам?» Зразумела, што яна паскакала ў іншы бок і нават не азірнулася.

Не ведаю, як вы, а я часта думаю: што ж гэта такое? Чаму адзін чалавек раптам атрымлівае такую ўладу над другім? Ці — чаму адзін чалавек падначальваецца — ну, калі не падначальваецца, то моцна залежыць ад другога. Ад яго слова, позірку, нават проста настрою? Не, я такога не адчуваў, і мне гэтага не зразумець.

Калі гаварыць пра Юру... Не, сказаць, што ён падначаліўся Маргарыце, нельга. Але нябачную ўладу над ім яна атрымала. Мільгане яе постаць недзе ў калідорах — настрой у Юры неблагі. А калі няма яе ў школе — захварэла ці яшчэ што — няма ніякага сэнсу ні ва ўроках, ні ў перапынках...

Кажуць, што ў наркаманаў цяжкая залежнасць, калі няма чым «шырнуцца», ломка ўсяго арганізма. Але ж і тут — залежнасць. І свайго роду ломка. Эх, Юра-Юра, як я табе спачуваю...

Аднойчы Юра з'явіўся ў школу ў новым гарнітурчыку, бялюткай кашулі, а галоўнае — з бабачкай. Мы раты паразяўлялі. І на перапынку не бегаў, не штурхаўся, як звычайна, а прыгожа прагульваўся па калідорах. І не разумеў, што выглядае вельмі смешна.

— Маэстра, — звярнуўся да яго адзін са старшакласнікаў, — дзе фрак прыдбалі?

— Што сёння выконваем? — спытаў другі. — Гендэля ці Брамса?

Ну, гумар гумарам, а ў вачах Маргарыты ўсё ж мільганула цікаўнасць. І Юра гэта заўважыў. І на другі дзень здзівіў усіх: сіняя гадзюка з драпежнай разяўленай пашчай і доўгім джалам выглядвала на шыі з-пад каўнерыка. Каму як, а мне спадабалася. Я б таксама зрабіў якую-небудзь тату, але бацькі не дазволяць. «Пудзіла», — гаворыць бабуля, калі бачыць чалавека з наколкамі. «Дурань», — гаворыць мама. А тата паціскае плячыма, і гэта гаворыць пра тое, што і яму не падабаецца. Маўляў, навошта, які сэнс?

Але ў тату Юры сэнс меўся. Гэта была метафара. Азначала яна, што... Карацей — разбітае сэрца, як казалі некалі. Ці — дурное каханне, як часам кажуць цяпер.

Усім у школе тату спадабалася, акрамя настаўнікаў, канешне. Ну і акрамя Маргарыты, — так яна на ўсякі выпадак усім сваім выглядам паказвала. Ну, а як яно было на самай справе, гэтага не ведае ніхто.

Але, канешне ж, часам вярталіся да яго і хвіліны слабіны. У адну з такіх хвілін Юра зноў падышоў да яе. Відаць, вырашыў, што здолее пагаварыць спакойна і ясна, ніякага гумару, ніякіх памідораў і агуркоў. І не з пустымі рукамі падышоў, а з букетам дарагіх кветак.

— Паслухай, Рытка, — сказаў, — ты ўсё ж не разумееш мяне. Я...

— Не хачу з табой размаўляць, — сказала яна і рэзка павярнулася да яго спінай.

І ўсё адно Юра не хацеў здавацца. 8 сакавіка ён спыніў яе каля школы і працягнуў флакончык духоў. «Са святам», — сказаў і стаяў, чакаў адказу. А Маргарыта ўзяла флакон, зняла крышачку, панюхала і скрывілася.

— Фу, — сказала яна. — Якая брыдота, — і сунула флакончык назад яму ў рукі.

Між іншым, духі былі французскія. І каштаваў флакончык 80 «еўрыкаў». Няма-ла, ці не так? Дзе ўзяў такія грошы? Ды ўсё проста. Вельмі проста. Залез у бацькаў кашалёк. Асабліва не хаваўся і не адпіраўся. Так, украў. Так. Так. Так.

Вось цяпер, здаецца, усё. Цяпер памідоры завялі канчаткова.

...Ён спыніўся насупраць яе дома, сціснуў кулакі, заплюшчыў вочы і з усіх сіл крыкнуў: «Я цябе ненавіджу! Я больш не магу, не магу, не магу!» На самай справе пракрычаў гэта ён у думках, а затым павярнуўся і пайшоў прэч. І людзі, маладыя і старыя, саступалі яму дарогу, разумеючы: нешта здарылася.

Пераклад з рускай мовы Алеся Карлюкевіча

Мастачка Дана Цюперак

## Аповесць-канструктар

### *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—8.*

*Мастачка Наталля Длатоўская.*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 129 (133, 137, 141, 145, 149) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба скleiць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Перад табой, дружа, апошнія старонкі аповесці-канструктара і вокладка кнігі. Спадзяёмся, табе ўдалося скласці яе, а чытанне было (або будзе) цікавым. Напішы нам свае ўражанні.***

**Выраж вокладку па контуры зверху і знізу, пасля абгарні склеены блок, размясці яго так, як табе больш падабаецца і каб цалкам закрыць старонкі, а пасля смела абрэж па краях. Пасля заключнай работы з клеем або ніткамі і іголкай ты будзеш мець у руках гатовую кнігу.**

— Ты хаця б будзеш упэўнены, што вы абодва застанецеся жывымі.

— Такое чараўніцтва можа скончыцца чым заўгодна. Яно можа мець такія наступствы, якія ніхто не здолее прадбачыць.

— Вось і паглядзім. Я не адмоўлюся ад таго, што задумала.

— Ты ўяўляеш, у якой небяспецы будуць твае дзяўчаты? А гэтага, — ён ткнуў пальцам у напрамку Юрася, — табе не шкада? Ён ведае, што задавальненне тваіх амбіцый каштуе ягонай смерці?

Юрась стаяў здзіўлены, агаломшаны, прыціскаючы да сябе Агнію.

— Не звяртай увагі на правакацыі, Юрчык.

— Што вы задумалі, мая панна? — голас юнака гучаў цвёрда і ўпэўнена.

— Раскажу, калі яны сыдуць.

— Не магу дачакацца, — ён раптам зрабіў крок да жанчыны, хапаючы яе за запясці.

Разгубіўшыся, Вядзьмарка ўпусціла пруток і адхіснулася назад. Стэфан хутка вызваліў вучня ды кінуўся прэч з хаты.

— Ты з глузду з'ехаў! — жанчына заляпіла Юрасю звонкую аплявуху і вылецела ўслед за Ваярамі.

Яны адышлі ўжо даволі далёка, але яна яшчэ магла іх спыніць. З рукава сукенкі выслізнуў пруток. Разам з праклёнам Вядзьмарка паслала яго ў спіну юнака. У апошні момант старэйшы адчуў нешта нядобрае,



Аліса задумалася. Каго ж тады шукаў той вандроўнік? А калі не шукаў нікога — навошта так часта прыходзіў да дзядулі? Няўжо думаў, што бабуля да яго вернецца?

Раптам з'явіўшыся на ганку, Вядзьмарка адразу ж аддала загад:

— Вызваліце яму рукі. Не бойцеся, ён нічога не зробіць.

Аліса акуратна разблытала вяроўкі ды расшнуравала тугія скураныя наручы. Ён уважліва сачыў за яе рухамі, і гэта прымусіла дзяўчынку збянтэжыцца ды хуценька адысці збок, саступаючы месца Вядзьмарцы. Тая імгненна схапіла яго левую руку. Алісе кінулася ў вочы чырвоная татуіроўка на запясці. Яна сустракала такі сімвал у вядзьмарскіх кнігах і ведала, што ён вызначае жыццё. Жанчына правяла па татуіроўцы пальцамі ды пагрозліва засмяялася.

— Так я і ведала. Так і ведала, што яшчэ не раз убачу гэты сімвал. Як жа вы мне надакучылі!

Юнак зноў паспрабаваў вызваліцца, але яму ўсё яшчэ не ставала моцы.

— Ведаеш, з чаго ўсё пачалося? — у яе руках раптам з'явіўся тонкі востры пруток, яна пачала вадзіць ім па сімвале, часам націскаючы мацней. — Яны з'явіліся ў вёсцы, дзе я жыла з мужам, ды абвінавацілі мяне ў тым, што я, чаруючы, парушаю энергетычны баланс. Вымусілі пакінуць сям'ю ды ўцякаць

у лес. Але ім было гэтага мала. Яны працягвалі сваё «паляванне на вядзьмарак». Давялося паказваць, на што я насамрэч здольная.

Аліса зірнула на Юрася. Той стаяў каля дзвярэй, змрочны, напружаны, закусваў кулак.

— Гэта іх на час супакоіла. Але толькі на час. Праз колькі гадоў у маіх мясцінах зноў з'явіўся ваяр. З такім самым сімвалам на руцэ, — жанчына больш націснула на пруток і хлапец скрыпнуў зубамі ад болю. — Зусім малады, але не такі дурань, як ты. Шчыра кажучы, дагэтуль не ведаю, хто з нас быў драпежнікам, а хто ахвярай. Але ён мне так і не патрапіўся. Хоць я была блізка, вельмі блізка. Але яго ў час адазвалі назад, ва Унутраны сусвет.

Ваяр сумна ўсміхнуўся ды паківаў галавой, нібы нешта для сябе зразумеў.

— Цяпер вось ён вярнуўся з табой. І гэта выдатна. Так значна лягчэй скончыць пачатае. Ён хутка будзе тут, — Вядзьмарка крыва ўсміхнулася ды рэзка, жорстка паласнула прутком праз татуіроўку.

Юнак ціха вохнуў ад болю. На паверхні татуіроўкі выступілі кроплі крыві, а сама яна змяніла колер ды стала падобная да распаленага дабяла металу. Жанчына перастала яго трымаць, і ён адразу ж закрыў татуіроўку далонню, нібы спрабаваў схаваць яе. Вусны яго ледзь рухаліся, але Аліса магла разабраць, як ён вымаўляе «не трэба» і «пастка».

130

Агнія ўсхвалявана тулілася да Юрася, які ўжо яўна не атрымліваў ніякай асалоды ад таго, што адбывалася. Алісе ж не было да каго прытуліцца. Не было за каго схавацца. Не было ў каго запытацца, што адбываецца ў гэтым сусвеце. Ёй здавалася: ніхто не скажа ёй праўды. Бо ніхто яе і не ведае. У кожнага яна свая.

***

Агнія спалохана глядзела ў акно, стоячы каленямі на лаўцы. Да хаты цвёрдым крокам рушыў суровы, узброены мужчына. Заўважыўшы праз шыбу малую, ён крыху разгубіўся, але хутка для сябе нешта вырашыў ды крочыў далей.

— Ён набліжаецца, мая панна, — ціха адзначыў Юрась.

— Ведаю, адчыняй, — жанчына паднесла пруток маладому Ваяру да горла.

Праз хвіліну мужчына з'явіўся на ганку, напружана аглядаючы прысутных, відавочна разлічваючы сваю моц.

— Я бачыў арнаменты ў лесе. Я ведаю, што ты хочаш зрабіць, — спакойна вымавіў мужчына.

— Я не збіраюся з табой біцца. Забірай свайго вучня ды сыходзь. Вам зусім не абавязкова пры гэтым прысутнічаць. Толькі пакляніся, што пакінеш мяне ў спакоі назаўсёды.

— Як я магу паклясціся пакінуць цябе ў спакоі, калі ты ніколі не пакленешся, што не зробіш гэтага?

131

— А мы куды?

— Туды, куды я вельмі даўно мару вярнуцца. Мне там, праўда, ужо няма чаго рабіць, але ты там дакладна будзеш у бяспецы.

Значыць, не мае больш панна кантролю над шкадлівым кацянём. Нічога, яшчэ ёсць ён. Імгненна набываючы іншую форму, Хут узвіўся ў паветра. Спачатку проста сачыў зверху. Цікава, куды Юрась скіраваўся? Той бег вельмі хутка, не спыняючыся ні на хвіліну. Пацвердзіўшы свае здагадкі, нячысцік скіраваўся ўніз, пераразаючы ўцекачам шлях.

— Далёка сабраліся?

Ён ужо набыў звыклае аблічча, але ад гарачыні трава пажухла пад нагамі.

— Ты ведаў, праўда? — Юрась выглядаў вельмі раззлаваным. — Ты збіраўся мне сказаць?

— Не. Хацеў, каб тое, пра што ты марыў, было сюрпрызам. Сам жа казаў: «Не жыццё, а пакута, хай бы хто гэта скончыў».

— Гэта было перад тым, як у вёсцы з'явіліся дзяўчаты.

Наіўны хлапчук раздражняў усё больш. А сябравалі ж раней.

— Як з'явіліся, так і знікнуць. І будзе табе яшчэ горш.

— Нікуды мы не знікнем! — раптам выбухнула Агеньчык. — Я з Юрасём сябрую, не тое што ты!

— А ён з табой? Куды ён цябе цягне, а?

136



133

павярнуўся, імгненна адштурхнуў вучня. Пруток працяў плячо. Мужчына ледзь скрывіўся.

— Што, калекцыю вырашыла сабраць? Ці былы служка выйшаў з-пад кантролю?

— Люблю рабіць з Ваяроў нячысцікаў, — яна павольна набліжалася, але яны не адыходзілі. — Нешта ў гэтым ёсць. Праўда, пыска хлопчыка больш на мой густ, але якая па сутнасці розніца?

— Такая, што я табе жывым не дамся, — Ваяр коратка перазірнуўся з вучнем. — Давай, Вал!

Кароткі кінжал, што Усеваладу перадаў Настаўнік, рэзка ўвайшоў у зямлю. І адкуль у яго, стомленага, напоенага вядзьмарскай атрутай, узялося стольki моцы? У паветры адразу ж чырвонымі пырскамі выбухнуў абарончы арнамент. Яна нават не паспела здзівіцца такому складанаму чараўніцтву, бо выцялася аб зямлю ды імгненна згубіла прытомнасць.

***

Хут спяшаўся да гаспадыні, цягнучы цяжкі мех. Апошнія пункты спіса былі выкраслены, і здавалася, нічога не можа сапсаваць яму настрой. Хіба што кола выгаралай травы на палянцы перад хатай. Хут цудоўна ведаў, што пакідае такія сляды. Чараўніцтва Ваяроў. Нячысцік напружыўся. Толькі іх цяпер не хапала. У хаце крычалі. А на старым вязе каля хаты ўладкавалася маленькая чарнявая істотка з чорнымі рожкамі на лбе ды, паціраючы лапкі, агідна тоненька

134

рагатала. Хіхітун. Значыць, здарыцца нешта нямаднае, значыць, будзе бяда.

— Ты мне тут павесяліся! — грозна зазначыў Хут. — Пайшоў прэч адсюль, знайдзі іншую нагоду для радасці.

Істотка пакрыўджана скрывілася, аднак паслухмяна саскочыла ды, ціха пасмейваючыся, уцякла ў гушчар. Хут заняў месца Хіхітуна і прыслухаўся.

— Ты што робіш, дрэнь блыхастая? — голас гаспадыні пазнаваўся адразу.

— Што вы робіце? Пра што казаў Ваяр? — другім быў Юрась.

— Ты проста служка, які выконвае загады, зразумеў? Мне дастаткова пальцамі шчоўкнуць, каб ты ў пыл ператварыўся!

— Не! — поўны слёз голас Агніі.

Няўжо Вядзьмарка зрабіла гэта? Няўжо яна зрабіла гэта зараз? Шкада, але з іншага боку раней ці пазней гэта ўсё роўна адбылося б. Пад страхой запанавала цішыня, аднак праз імгненне яе перарваў такі знаёмы юнацкі голас.

— Відавочна, у вашага чараўніцтва ёсць тэрмін прыдатнасці.

У той жа момант юнак выбег з хаты, шчыльна прыціскаючы да сябе Агнію.

— Юрась, а Аля? — плакала малая.

— Алісу я не магу забраць. Сама разбярэцца. Ці не. Гэта ўжо ад яе залежыць.

135

— Ну, гэты ж яе «нявольнік» неяк выйшаў з-пад кантролю.

— Надта шмат гадоў прайшло. І думаю, справа ў гэтай рудой малечы, — мужчына ледзь паківаў галавой. — Мы не можам так рызыкаваць. Праз гадзіну я перайду пад яе ўладу, і ўся мая энергія Ваяра дастанецца ёй. А калі яна ажыццявіць сваю задуму, дык атрымае яшчэ і энергію таго, ува што я ператваруся. Гэтага нельга дапусціць, Вал.

— Стэф, я не магу ўзняць руку на Настаўніка!

— Я ж дзеля цябе змог. Я ж забіў Фелікса.

— Я б таксама дзеля цябе забіў каго заўгодна. Але не...

— Падумай пра маю годнасць, — мужчына ўзняў голас. — Я не хачу быць служкам вядзьмаркі.

Юнак зарыўся пальцамі ў валасы і зрабіў яшчэ адно нервовае кола па палянцы.

— Гэта ўсё праз мяне. Гэта я ва ўсім вінаваты. Прабач, Стэф. Прабач, што пайшоў за табой. Я думаў... Што не заслугоўваю стаўлення, як у майстра Марка. Баяўся, што з табой нешта здарылася. Я не мог у гэтай невядомасці… Думаў, што змагу дапамагчы. І толькі сапсаваў усё.

— Усевалад! Паглядзі на мяне. Для мяне вельмі шмат значыць тое, што ты прыйшоў за мной. Для мяне вельмі шмат значыць, што ты слухаеш сябе, а не жывеш, як скажуць Кіраўнік ды Рада Майстроў. А цяпер паслухай сябе яшчэ раз і зрабі гэта, Вал. Я хачу, каб гэта быў ты. Калі ласка.

140

— Туды, дзе я буду ў бяспецы.

— Ну-ну. Ёсць толькі адно месца, дзе ты будзеш у бяспецы. Побач з нашай паннай. Ён шукае бяспекі не для цябе, а для сябе. Павяртай назад, Юрась. Ад сябе не ўцячэш — ты даўно ўжо адзін з нас.

— Не слухай яго, Юрась, — Агеньчык прыціснулася шчакой да шчакі юнака. — Ты так доўга слухаў Хута, Лесуна, Вядзьмарку... Паслухай сябе! А ты, Хуцік, пусці нас, калі ласка. Табе ад нас ні шкоды, ні карысці.

— Не пушчу! — гэтай прыгажуні цяжка было адмаўляць, але ён быў надта ўпартым.

— А я кажу: пусці! — малая патрэсла сціснутым кулаком.

Пад нагамі Хута палыхнула барвовымі пялёсткамі Перунова зорка — ён ледзь паспеў адскочыць. Здзіўлена ўтаропіўся на Агнію. Малая і сама дрэнна разумела, што адбылося. А вось Юрась зручней перахапіў дзяўчынку ды зноў кінуўся бегчы.

— Што я нарабіла? Што гэта было?

— Чарговы раз выратавала мне жыццё. Ціха, Агеньчык, не крычы.

Наперадзе, на паляне між бяроз спыніліся Ваяры. Старэйшы сядзеў на траве, стомлена абапіраючыся спінай на дрэва. Малодшы нервова хадзіў вакол.

— Можа, Кіраўнік што-небудзь прыдумае?

— Вядзьмарскае чараўніцтва можна спыніць у працэсе. Але вынікаў ты не адменіш.

137

Дзверы за спінай ляпнулі — і яна ўбачыла побач з сабой скураныя туга зашнураваныя боты.

— Прыйдзецца крыху пачакаць з Майстэрствам, Міра. Табе трэба падрыхтавацца — Кіраўнік збірае атрад, каб паляваць на Вядзьмарку. Адпомсці за яго.

— А ты? — яна ўзняла вочы. — Няўжо ты не хочаш зрабіць гэта сам?

— Мне не стане лягчэй ад гэтага, — папраўляючы цяжкі Стэфанаў двуручнік за спінай, сказаў юнак. — Можа, табе стане…

Ён нахіліўся і мякка правёў далонню па яе валасах, спусціўся з ганка.

— Ты не вернешся? — насамрэч яна выдатна ведала, што пачуе ў адказ.

— Ён так і не стаў Майстрам, — у яго аблічча не засталося нічога дзіцячага, нават вусны дрыжалі па-даросламу. — Адзіны, хто гэтага сапраўды заслугоўваў. Мне няма чаго тут рабіць. Прабач, Міра. Бывай.

Ён адышоў ужо даволі далёка, а яна ўсё думала, гледзячы яму ўслед шклянымі вачыма, як з ім развітацца. «Бывай»? Ясная справа: будзе. «Да пабачэння», «Да сустрэчы»? Наўрад ці яны сустрэнуцца. «Усяго найлепшага»? Гучыць як здзек...

Вось яно. Вось што яна сапраўды хацела цяпер сказаць яму.

— Не сыходзь, — ледзь чутна вымавіла яна, да болю сціскаючы рукамі калені.

144

Хлапец апусціўся на калені побач з мужчынам, моцна сціскаючы ў руцэ кінжал. Агнія раптам тарганула Юрася за кашулю. Позірку яе быў вельмі сур'ёзны і сумны.

— Хадзем, — шэптам вымавіла яна. — Хай будуць адны.

***

Міраслава зноў зайшла ў родную хату, зайшла, каб развітацца. Цішыня. Апошні раз убачыць гэтую ўтульную чысціню, адчуць пах, згадаць атмасферу, поўную адначасова суровасці і любові. Яна ўжо не чакала, што ён раптам з'явіцца ў гасцінай і са стрыманай усмешкай прапануе гарбаты. Яна ведала, што так не будзе. Ужо ведала, што ў гэтым поўным чараўніцтва і міфічных істот сусвеце ўсё ж такі не бывае цудаў. Разумела, што больш ніколі не будзе назіраць за тым, як старана ён паліруе свой меч, седзячы на гэтай вось канапе і напяваючы нешта сабе пад нос. Яе працялі дрыжыкі і ў носе агідна заказытала. Быў толькі адзін чалавек, якому было цяпер горш, чым ёй. Міра ведала, што ён усё яшчэ ў гэтым доме. Развітваецца, як і яна.

Ён сапраўды быў у сваім пакоі. Сутулячыся і кусаючы патрэсканыя вусны, складаў рэчы ў заплечнік, але адразу ж заўважыў яе. Магчыма, нават адчуў яе энергію. Калі ўвогуле мог яшчэ што-небудзь адчуваць.

141

— Рада бачыць цябе, Усевалад, — недагаворанае «жывым» павісла ў паветры.

Але ён пачуў фразу цалкам. Вусны скрывіліся ў падабенстве ўсмешкі.

— А я не, — праз зубы выціснуў ён. — Не рады сябе бачыць.

— Я спачуваю, Вал. І мне таксама не хапае яго…

Юнак раптам узняў галаву, патрос указальным пальцам, нібы хацеў спрачацца з ёй, нахмурыўся і зноў апусціў вочы. Але Міра ведала, што ён хацеў сказаць. Ёй ніколі не зразумець, што ён зараз адчувае. Ёй ніколі не зразумець, кім з'яўляўся для яго Стэфан. Стэфан, які заўсёды быў побач, які заўсёды рабіў усё дзеля Усевалада, справядлівы, ураўнаважаны, патрабавальны, самы адданы ў свеце Стэфан. Чалавек, які рызыкаваў дзеля яго жыццём. Чалавек, які ствараў і складаў увесь яго Сусвет.

Міру раптам працяла жудаснай хваляй разумення. Вось чаму Вал нават не глядзеў у яе бок. Не таму, што яна не вабіла яго як дзяўчына, не таму, што ён лічыў сябе лепшым за яе. Ён проста любіў аднаго Чалавека, абстрагуючыся ад яго полу, узросту, сацыяльнага становішча ці чаго-небудзь яшчэ. Праўда, хіба для сапраўднай Любові могуць існаваць якія-небудзь крытэрыі ці абмежаванні? Ён проста любіў і быў напоўнены гэтым пачуццём. Менавіта таму і не імкнуўся да першасці, да паспяховасці, да таго, да чаго так уласціва імкнуцца ўсім

142

Ваярам. У яго было ўсё, што яму было сапраўды патрэбна. І ў адзін момант не засталося нічога. Яна літаральна фізічна адчувала пустэчу ўнутры яго. І ёй было крыўдна. Крыўдна за тое, што ні яна, ні хто заўгодна іншы не здольны запоўніць гэтую пустэчу. Ёй нават падумалася, што яна не мае права плакаць па ім побач з Усеваладам.

Юнак усё яшчэ складаў рэчы, часам затрымліваючыся з некаторымі прадметамі крыху даўжэй. Яго рукі дрыжалі. Левае запясце было туга забінтавана. І Міра была ўпэўнена: татуіроўкі пад бінтамі больш няма. Яна ўсхліпнула і, заціскаючы рот далонню, не дазваляючы сабе расплакацца пры Усеваладзе, кінулася прэч.

Як жа гэта, халера іх усіх вазьмі, сімвалічна, што на яго запясці больш няма сімвала жыцця. Спусташэнне і асэнсаванне таго, што іх маленькія сусвецікі развальваюцца на кавалкі без моцных рук настаўніка, накрылі яе жудаснай істэрыкай. Яе боль, журба, расчараванне змяніліся на бескаляровую, сухую, агідную паніку. Ёй здавалася, што яна панікавала перад сваім першым боем, перад сваім першым пакараннем, перад сваім першым іспытам — не, тое была не паніка. Яна зайшлася ў нямым крыку, сагнуўшыся на ганку хаты, абхапіўшы потнымі ледзянымі далонямі плечы. Яна адчайна спрабавала набраць паветра ў грудзі, але нібыта забылася як дыхаць.

143

халоднага, стрыманага мужчыны столькі болю і адчаю. Цяпер іх чакала помста. Але Кіраўнік не спяшаўся даваць каманды. Нібы чакаў чагосьці...

На дах хаты ціха ўладкавалася вушастая сава. Так мякка і раптоўна, нібы з'явілася з пустэчы. Ранавата для такой істоты — сонца яшчэ не зайшло. Затое можна разглядзець яе чароўнае бэжава-чорнае пер'е. Зусім не падобна, што яна пазычыла па пёрку ў кожнай птушкі, як тое кажуць паданні. Але больш за ўсё Міру зачароўвалі яе вочы. Вялізныя жоўта-аранжавыя сонцы з чорнымі зрэнкамі зазіралі кудысьці глыбока ў душу. Кудысьці туды, дзе на залітай сонцам траве Настаўнік і Вучань плялі арнаменты шчасця і дабрабыту.

Кіраўнік напружана азіраў Вяяроў. Людзі хапаліся за галаву, хісталіся, губляючы раўнавагу, а Міраслава дык увогуле расплакалася. Мужчына стомлена абапёрся плячом на дрэва, адчуваючы, як цямнее ў вачах і сусвет паступова знікае. Ён ведаў: вядзьмарскае насланнё абудзіць лепшыя і адначасова горшыя ўспаміны. І не быў да гэтага гатовы.

Лепш бы Юрась не вяртаўся, ніколі не вяртаўся. Нягледзячы нават на тое, што прывёў такую моцную дзяўчынку. Несправядлівы абмен. Лепш бы прывёў Яго…

Вёска. Старая, амаль закінутая. Жылых двароў засталося тры-чатыры. Астатнія ці зарастаюць пустазеллем, ці ажываюць толькі летам, калі ў гарадскіх

148

***

Вядзьмарка ўжо некалькі дзён ляжала, захутаная ў некалькі коўдраў. Яна стала адчуваць сябе блага пасля адыходу Ваяроў і Юрася. Нібы падхапіла які грып. Па твары пабеглі зморшчынкі, а ў рудых валасах з'явіліся сівыя пасмы. Яе відавочна мучылі жахі. Штораз жанчына прачыналася, спалоханая. Мармытала, што нічога не атрымаецца, што ёй не хопіць моцы. Але Алісу не адпускала ад сябе ні на хвіліну.

Дзяўчына ж праводзіла большасць часу, седзячы каля акна ды выглядаючы між змрочных ялін хоць якую знаёмую постаць. Яна нават не ведала дакладна, каго хоча ўбачыць. Агнію з Юрасём? Ён, напэўна, схаваў сястру ў якім-небудзь бяспечным месцы. Больш бяспечным за гэтае. Дзіўна, што цяпер яна давярае сястру чалавеку, якога раней нават блізка б не падпусціла. Дык каго чакаць? Ваяроў? Наўрад ці яны дапамогуць ворагу. А яна для іх менавіта вораг.

Яна засталася адзін на адзін са сваёй будучыняй і цяпер гэта не здавалася чымсьці фантастычна-казачным.

Дзядуля, па словах вядзьмаркі, іх з сястрой не шукаў, не чакаў ды наогул пра іх не памятаў. Усё, звязанае з дзяўчынкамі, знікла з яго памяці, нібы яго не было. Дзед быў упэўнены, што займаўся гаспадаркай сам, блукаў па лесе, рабіў штосьці карыснае. Усе дакументы і рэчы зніклі, нібы іх ніколі і не было.

145






Ніводнай кашулі ці сукні ў шафе. Ніводнага сшытка, ніводнай кніжкі. Нічога, што сведчыла б пра існаванне Алісы ці Агніі.

Аліса ведала пра вядзьмарскія заклёны і нячысцікаў, здольных знесці з хаты нават самыя дробныя рэчы, таму не была здзіўлена — хіба толькі засмучаная.

Аднойчы ў мармытанні вядзьмаркі яна расчула:

— Я павінна быць пустой.

— Што гэта значыць? — спытала яна, не спадзеючыся на адэкватны адказ.

Але жанчына паглядзела на яе на дзіва свядома:

— Я аддам табе сваю сілу, але замест яе атрымаю нешта большае.

— Вы збіраецеся забраць моц ва ўсіх, каго склікалі да ляснога возера, праўда ж? Але навошта тут я? Навошта аддаваць мне сваю моц?

— Я павінна быць пустой. Такая плынь энергіі зацячэ толькі ў пусты сасуд. Каб быць пустой, я павінна памерці. А каб памерці, я павінна перадаць сваю энергію.

— Значыць, я не вучаніца і не спадчынніца — я «транзітны пункт»?

— Абяцаю, я навучу цябе ўсяму, што ўмею, як толькі вярнуся. А я вярнуся.

— Вы казалі, што мы існуём, каб абараняць міфічных істот ад ваяроў. Але насамрэч ад вас іх трэба абараняць у роўнай ступені!



— Хіба? — жанчына кінула імклівы позірк на акно, намякаючы, што Алісе варта вызірнуць.

Сярод дрэваў мільгалі постаці Ваяроў. Адзін, другі, чацвёрты, дзясяты. Аліса згубіла лік.

— Яны прыйшлі па цябе, — слаба вымавіла жанчына.

— Яны прыйшлі па вас!

— Я для іх больш не пагроза.

— А я яшчэ не пагроза!

Дзяўчына бачыла, як пабліскваюць мячы, адчувала, што ў іх бок накіроўваецца ўсё больш арбалетных балтоў.

— Што рабіць?

— Абараняцца.

— Але ж я пакуль нічога не магу.

— Затое я пакуль магу. Ты са мной?

Аліса зірнула ў акно і развяла рукамі. Ну не з імі ж. Яны ёй рады не будуць. Жанчына заплюшчыла вочы і нячутна заварушыла вуснамі.

Міраслава стаяла між Кіраўніком і майстрам Маркам, сціскаючы эфес. Абодва мужчыны былі заўважна засмучаны смерцю Стэфана. І яна нават не ведала, каго з іх гэта закранула больш. Яе здзівіла рэакцыя Марка, але, відавочна, сяброўства так проста не забываецца. Нават калі вы ўжо лічыце адно аднаго ворагамі.

Але Кіраўнік яе здзівіў яшчэ больш. Ніколі яшчэ яна не бачыла на твары гэтага ўраўнаважанага,

# Старонка з чытацкага дзённіка

Што мне спадабалася ў «Арнаментах»

Што я хачу сказаць аўтару кнігі

Якім сваім сябрам я параю яе прачытаць

А што, калі наступным аўтарам аповесці-канструктара для «Бярозкі» буду я? Пра што я магу напісаць аповесць?






жыхароў з’яўляецца жаданне пабыць на прыродзе. За зіму ў гэтых хатах разводзіцца процьма шкоднай дробязі. Даводзіцца чысціць. Не зразумела толькі, чаго гэтым разам Фелікс пацягнуў яго за сабой? Няўжо не спраўляецца? Фелікс? Наўрад ці. Хутчэй проста стала нудна.

Хата. Жылая, але недагледжаная. На старым сырым ганку хлапчук гадоў чатырох гуляе з драўляным колам. Перунова зорка. Малы назіральны. «Добры дзень! Гэта вы забілі тую пачварную жанчыну ўчора ўночы?» «Гэта была стрыга, — адказвае Фелікс і, нахабна пляснуўшы сябра па плячы, дадае: — Пайду агледжу двор. А ты пагутары яшчэ з дзіцем». Цікаўныя шэрыя вочы свідруюць яго, здаецца, вывучаючы кожную рысу. Робіцца няёмка. «Як цябе завуць?» «Бабуля кліча мяне Сцёпам. А мама называла Стэфанам». «Значыць, сына у гонар бацькі… Жанчыны-жанчыны, — мармыча ён невядома каму. — А дзе ж мама?» «Бабуля кажа: з’ехала грошы зарабляць». Малы раптам узнімаецца ды падыходзіць да плота. «Я таксама хачу меч». Кароткі лёгкі кінжал нібы сам выслізгвае з-за пояса ды кладзецца хлопчыку ў руку. «Меч табе пакуль ранавата».

Кінжал хутка вернецца да гаспадара. Іншы хлопчык дрыготкімі рукамі пакладзе яго на стол Кіраўніка. Бо яго надта цяжка трымаць. А ён пакуль не ведае, што вага не ў метале. Ён пакуль зусім нічога не ведае. І зараз недзе зусім адзін, здольны

на ўсё, каб пазбавіцца ад цяжару. Трэба знайсці яго, пакуль не нарабіў глупстваў. Сысці з пасады, перадаць кіраўніцтва Марку, які пра гэта ўсё жыццё марыў, знайсці хлопца ды прыглядаць за ім. Думкі пра Усевалада на дзіва прачысцілі галаву і прымусілі апрытомнець.

— Прэч! Прэч адсюль! — праз зубы прашыпеў Кіраўнік, выстаўляючы наперад далонь.

Птушка пакрыўджана шчоўкнула дзюбай. У гэты ж момант яе ахапіла полымя, ператвараючы ў попел.

Атрад паступова прыходзіў у сябе. Трэба рушыць. Кіраўнік кінуў позірк на хату. Нешта было не так. Гэта было няўлоўнае, незразумелае пачуццё. Быццам малюнак падмянілі, пакуль ён на секунду заплюшчыў вочы, і цяпер трэба знайсці дзесяць адрозненняў. Дакладней, адно, усяго адно адрозненне. Малюнак быў бляклы. Быццам схаваны за матавым шклом. Так яго вочы ўспрымалі энергію. Яе адсутнасць у дадзеным выпадку. Мужчына сурова зірнуў на Марка, які паціраў лоб, расчараваны ўласнай слабасцю.

— Не вярнуся праз пяць хвілін — аддасі каманду.

Хата падавалася пустой. Усе вядзьмарскія пасткі працавалі так слаба, што не маглі нанесці Кіраўніку вялікай шкоды. Надта шмат сілы яна згубіла на тое, каб супрацьстаяць ваярам. Дзяўчынкі, што раней сядзела каля акна, у хаце больш не было.

— Людзі — дзіўныя істоты, — пачулася з дальняга кута.



Вядзьмарка ляжала, павярнуўшыся да сцяны. І мужчына разумеў, чаму яна хавае твар. Сівыя валасы замест гожых рудых локанаў усё тлумачылі.

— Яны так прагнуць зведаць свой лёс. Але паміж пэўнай будучыняй і невядомым працягам так часта абіраюць невядомасць.

Кіраўнік задумліва хмыкнуў, круцячы ў руках той самы кінжал.

Травы хіліліся да зямлі, у паветры панавалі водары чабару, рамонку, святаянніку ды іншых зёлак, а шлях вёў кудысьці наперад. Цяпер яна ведала: няма чаго разважаць над тым, куды ён прывядзе. Не варта вагацца і абіраць правільнае рашэнне. Часам правільнага проста няма. А ісці магчыма толькі памыляючыся.

Аліса стаяла на мяжы лесу і назірала за тым, як вялікае, аранжавае, нібы апельсін, сонца павольна заходзіць за пагорак.







# Таямніцы трэцяй планеты: тры версіі

Кожны дзень мы бачым прыгажосць нашай планеты, карыстаемся яе дарамі, вывучаем і імкнёмся зразумець яе загадкі і тайны. І відаць, самая вялікая тайна гэтай трэцяй планеты — яе стварэнне. Сёння няшмат дакладнай інфармацыі пра тое, як на самай справе з'явілася наша планета, але навукоўцы ўвесь час шукаюць факты і падказкі, каб аднойчы мы даведаліся нашу гісторыю ад пачатку.

Есць некалькі тэорый стварэння Зямлі. Адна з самых вядомых — Зямлю і ўвесь наш Сусвет стварыў Гасподзь Бог. Як гаворыцца ў Бібліі, было гэта 6 000 гадоў таму. Бог ствараў свет за 6 дзён. На першы дзень Ён стварыў свяціла, на другі дзень — нашу планету, але была яна велізарным вадзяным шарам. На трэці дзень Бог стварыў сушу. На чацвёрты — усе расліны, што ёсць на планеце. На пяты — усіх жывёл, а на шосты — чалавека. Сёмы дзень ён пакінуў на адпачынак. Гэтая версія адказвае на многія пытанні, але з'яўляюцца іншыя, на якія ніхто не дае адказаў.

Другая тэорыя, якую лічаць найбольш рэальнай і пацвярджальнай, — гэта тэорыя аб тым, што Зямля з'явілася шмат мільярдаў гадоў таму, калі Сонца яшчэ было маладым, каля яго было шмат іншых цел, па законах фізікі больш вялікія камяні прыцягнулі да сабе маленькія… Так з'явіліся планеты. Але акрамя камянёў у космасе былі і лёд, і некаторыя газы. У выніку, дзякуючы радыяцыі і цеплыні ад Сонца, некаторыя планеты сталі газападобнымі (як Юпітэр або Сатурн), а некаторыя засталіся цвёрдымі, у тым ліку і Зямля. Але ў тагачаснай Зямлі не было яе спадарожніка — Месяца. Ён з'явіўся хутчэй за ўсё тады, калі ў шар Зямлі ўдарылася іншая планета. Праз шмат гадоў, эвалюцыйным спосабам на Зямлі завяліся бактэрыі, пасля — першыя водныя істоты, потым — земнаводныя, рэптыліі, млекакормячыя.

Трэцюю тэорыю большасць назаве казкай, але некаторыя лічаць яе самай сапраўднай рэальнасцю. Існуе шмат фільмаў пра іншапланецян. Некаторыя людзі сцвярджаюць, што сустракаліся з істотамі з іншых планет. Трэцяя тэорыя якраз пра тое, што Зямля была ці калоніяй, ці штучна створанай планетай для жыхарства. Але шмат гадоў таму з нейкай прычыны мы ўсе забыліся, хто мы і адкуль, і пачалі новае жыццё. Гэтая тэорыя заснавана на тым, што са старадаўніх часоў засталіся вельмі цікавыя здабыткі, такія як піраміды, скульптуры на выспе Вялікадня, ці веды плямёнаў майя... Мы задаём сабе пытанне: як гэта адбылося, калі нават сёння вельмі цяжка зрабіць нешта падобнае? І самым простым адказам будзе гэтая тэорыя.

Мы не валодаем пакуль ведамі ці апаратамі, якія б адказалі на нашы пытанні, а можам марыць, ствараць усё больш і больш ідэй да таго часу, пакуль ісціна не адкрыецца нам.

Лізавета Карчэня,
10 клас, гімназія №10, Мінск

# Бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава



Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 19.09.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,13.
Тыраж 766 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

На першай старонцы вокладкі — Андрусь Такінданг.
Фота Ганны Качалка



Беларускае фэнтэзі на беларускай глебе з беларускімі міфалагічнымі істотамі, першае ў сучаснай літаратуры з усёй сур'ёзнасцю да напісання — крута!
Беларускае фэнтэзі, дзе прыгоды не дзеля прыгод, а дзеля пошукаў адказу на пытанне: што ёсць дабро і зло і дзе мяжа між імі — крута!
Беларускае ЦІКАВАЕ фэнтэзі — крута!
Рэч свая — раз.
Рэч глыбокая — два.
Рэч займальная — тры.

Валерый Гапееў, пісьменнік



Калісьці дзве дзяўчынкі — Кася і Аліна — бавілі час, пішучы аповеды і цэлыя раманы ў жанры фэнтэзі і зачытваючы іх адна адной ды ўсяму падворку. Час мінуў, цяпер Аліна Длатоўская — дарослая пані і пісьменніца, якая мае адначасова як талент і густ, падсілкаваныя творчымі бацькамі, так і майстэрства, якое бясконца, рупліва ўдасканальваецца. Яе маленства прайшло на Казках Караткевіча, а маці спявала беларускамоўную калыханку перад сном. Аліна добра ведае беларускую гісторыю і бачыць у ёй крыніцу натхнення не меншую за нашы мроі пра чараўніцтва і звышздольнасці...

Кася Глухоўская, самы першы чытач гэтай кнігі







Я прытрымліваюся меркавання, што кожнаму чалавеку ёсць што сказаць. Я зусім не мару пра нейкую сусветную вядомасць, але хачу быць пачутай. А яшчэ хачу паказваць магічнасць навакольнага свету, бо ён не такі звычайны, якім здаецца. Як чытач люблю літаратуру лёгкую, светлую, захапляльную, але з падтэкстамі і загадкамі, якія павінен разгадваць сам чытач.

Аліна Длатоўская



Аліна Длатоўская

# Арнаменты





